

Наталья Арсеньнева

НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

# ПАД СІНІМ НЕБАМ

ВЕРШЫ

(1921 — 1925 г.)



ВІЛЬНЯ. 1927

„ВІЛЕНСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА“ Б. КЛЕЦКІНА

## ВЯРТАНЬНЕ ЛЕГЕНДЫ

Шаноўны чытач! У тваіх руках факсімільнае выданьне кнігі Натальлі Арсеньневай — паэткі, імя якой, жыцьцё й творчасьць сталі для нас своеасаблівай легендай. Ужо тое, што паходзіць яна з роду, які па матчынай лініі даў сьвету Міхаіла Лермантава, ды нарадзілася на далёкім Каўказе і ўсё жыцьцё, за выключэньнем некалькіх ваенных гадоў, пражыла па-за адміністрацыйнай мяжой Беларусі, і, як на дзіва, сфармавалася ў беларускую патрыётку, высьпеліла ў душы, пранесла праз нялёгкія выпрабаваньні й высока ўзьнесла годнасьць беларускага слова — усё гэта ня надта ўкладваецца ў стандартна-побытавае, пазбаўленае дзяржаўнай і нацыянальнай перспектывы, у горшых сваіх праявах тыпова абмежаванае беларускае мысьленьне, якому, як ні скрушна, больш звыкла пагаджацца й апраўдваць факты здрады роднаму, мірыцца з самаплюйствам і самаадмаўленьнем. Але ня гэтым слаўная наша зямля! І праз зарасьнікі пустазельля сьветлым промнем яшчэ больш выразна высьвечвае духоўнае высакародзтва, сьветлая вера ў адраджэньне Беларусі, якая нарэшце павінна пазбавіцца сваёй прыніжанасьці, акрыяць і зноў, кажучы словамі Янкі Купалы, заняць свой пачэсны пасад між народамі!..

Натальля Арсеньнева, як і Максім Багдановіч, застаюцца для нас і загадкай, і сімвалам беларускасьці, што выжывае ў самых, здавалася б, неспрыяльных умовах. Будучы зьнешне нібыта адарванымі ад жыватворных нацыянальных каранёў, яны ўвесь час былі зь імі глыбінна й вельмі трывала спалучаны й зьнітаваны.

Але загадка застаецца загадкай. У дачыненьні да Натальлі Арсеньневай адгадка найперш праглядваецца ў надзвычай ёмістым слове Вільня. Назва гэтая, як вядома, цяпер афіцыйна не існуе, але Вільнюс — сёньняшняя сталіца незалежнай Літвы й тая Вільня, што бачыцца праз смугу стагодзьдзяў і назаўжды застанецца для нас вышэйшым увасабленьнем беларускай духоўнасьці й дзяржаўнасьці — рэчы зусім розныя.

Натальлі Арсеньневай, а гэта, мяркую, і зрабіла яе беларускай паэткай, яшчэ пашанцавала застаць Вільню местам, пераважна заселеным беларусамі, напоўненай нашай пявучаю мовай. Беларускай дзяржавы, зразумела, у той час ужо не існавала, але пачыналася новае беларускае Адраджэньне і яно абуджала памяць пра слаўныя часы Францішка Скарыны й Льва Сапегі, а разам з гэтым і пачуцьцё ўласнай нацыянальнай годнасьці. Менавіта ў гэтым асяродзьдзі й фармавалася Асоба паэткі.

Як і Максім Багдановіч, Натальля Арсеньнева ўвасабляла сабой, скажам так, шляхетнасьць беларускага духоўнага самавыяўленьня, узросчанага не на традыцыйнай на той час сялян-

скай ніве, а на гарадзкім бруку, сярод старажытных камяніцаў, у бібліятэчнай цішы, у мілагучнасьці канцэртных заляў.

У параўнаньні з Максімам Кніжнікам Натальля Арсеньнева больш па жаноцку далікатная й рафінаваная, найбольш адпаведная таму вызначэньню, што мае найменьне «паэта чыстай красы». Так, рэвалюцыйныя буры і ўзрушэньні, сьведкам якіх яна была, ня надта краналіся яе душы. Куды больш аддана захаплялася яна прыгажосьцю роднай прыроды, сінечай высокага неба, пералівамі фарбаў сваёй зямлі, выяўленьнем мацярынскіх і жаноцкіх пачуцьцяў, усім тым, што ўзвышае душу. Аднак па тых мерках, па якіх нас нядаўна выхоўвалі, усё гэта падавалася нязначным, нават дробязным і нявартым увагі. Адсюль і строгі адбор пісьменьніцкага іканастасу, тых імёнаў, якія рабіліся хрэстаматыйнымі для школьнага і універсітэцкага навучаньня. Але паглянем, у якой далікатнай сітуацыі апынуліся многія духоўныя «маршалы», якія з «выразных клясавых пазіцый» заклікалі пераўтвараць жыцьцё па рэвалюцыйных мерках і рашуча змагацца з адхіленьнямі ад «генеральнай» лініі? Пра Натальлю Арсеньневу ў падручніках і хрэстаматыях нават ня ўзгадвалася, але тое, што яна ўслаўляла, да чаго дакраналася яе тонкая паэтычная душа й па сёньня застаецца ўвасабленьнем чысьціні й прыгажосьці, над чым няўладны час і людзі. І хіба душэўна й духоўна не ўзвышаемся мы пад гукі й словы велічнага гімну «Магутны Божа», хіба ня робімся ад гэтага дакрананьня да вечных ідэалаў чысьцейшымі, лепшымі, высакароднейшымі і як беларусы, і як людзі ўвогуле...

Паэтцы, якая пасьля вайны пераехала на сталае жыцьцё ў Амэрыку, бо заставацца ёй тут, яшчэ да вайны спазнаўшы жахлівую сутнасьць сталінскіх лягероў, проста ня мела сэнсу, у наступным годзе споўніцца дзевяноста. Дай Божа, каб кожнаму з нас выглядаць у такім узросьце так бадзёра, валодаць такім ясным розумам, мець нязгасную веру ў духоўнае Адраджэньне нашай Бацькаўшчыны, як мае яна.

Тое, што маладое Згуртаваньне беларусоў сьвету «Бацькаўшчына» распачынае сваю выдавецкую дзейнасьць з перавыданьня першай, аддрукаванай у старажытнай Вільні, кніжкі Натальлі Арсеньневай «Пад сінім небам», якая такім чынам разам са сваёй творчасьцю вяртаецца пасьля доўгай і змушанай ростані на сваю Маці-Беларусь, уяўляецца сімвалічным, бо народ, дзе б ягоныя верныя сыны й дочкі ні былі — адзіны, як і адзіная й непадзельная нацыянальная культура. Унесьці свой уклад у ажыцьцяўленьне гэтай высакароднай ідэі — наш сьвяты абавязак.

**ЯЎГЕН ЛЕЦКА —**
**Старшыня Згуртаваньня беларусоў сьвету «Бацькаўшчына».**

*Сыном маім — Яраславу*
*і Уладзімеру кніжку гэту*
*пасьвячаю*

**А ў т а р.**

Ins hohe Meer werd'
ich hinaus geniesen...
(Goethe „Faust").

(У бяздоньне мора я
з жыцьця выходжу...)

# Пад сінім небам...

*(Замест прадмовы).*

Ад няпрыветных песьняў гора,
Ад смуткаў шэрае зямлі,
У неба сіню, ў неба мора
Пагляд прыстаўшы падымі.
Пад сінім небам няма распачы
Глухой, бязмежнай, што гнець усё,
Пад сінім небам усё іначай,
Здаецца дзіўным, як сон, жыцьцё,
Зусім нязнаным, прадзіўна-ўзьлётным,
Жыцьцём-натхненьнем, без парашкод...
Ў нябесных сінях несьмяротных
Бясконцым сьвятам сплывае год...
Дык гэт', у неба, у край вясеньні,
Ад мар, што душаць у жыцьці,
На белых крыльлях лятуценьня,
Пясьняр, па слова-чар ляці!

---

Сонца вясьнянага першыя косы,
Грукат крыніцаў і раньнія росы,
Восені жоўта-чырвонай адцені,
Смуткі зьмярканьня, начы лятуценьні,
Сэрца развагі і сэрца парывы,
Песьні, што ў летку плывуць па-над нівы,
Плач лясуна, карагод русалчыны,
Чары і зводы начное часіны,
Смутнай балотніцы сьмех - прычытаньне,
Роднай старонкі ціхое каханьне,
Усё, што у сэрцы жыве і пяе, —
Вершы мае...

1925 г. Сьнежань.

# Край.

Сонца заходзіць... На вежах кляшторных
Ў шклах запаляюцца тысячы зорных
Ярка-чырвоных агнёў...

Хораша... Марыцца... Сэрца імкнецца
Ў край, што яшчэ прыгажэйшым здаецца,
Сумны, а родны ізноў.

Там... там усё быццам так, а іначай
Хваляю ў сэрца ліецца гарачай,
Там, там усё прыгажэй.

Сіняе, сіняе неба бяз конца,
Смутна-вясёлае, яснае сонца,
Далі бязьмежных палей.

Там, там у гожыя, цёплыя ранкі
Песьняю срэбнай вітаюць жаўранкі
Першыя праблескі дня.

Песьняю будзяць ціхія лагчыны,
Дзе яшчэ пасам густым, цёмна-сінім,
Сонна калышацца мгла.

Сонца там росы усьмешкаю сушыць,
Вецер там кветкі ласкае, варушыць,
Кветкі ў шырокіх лугох.

Хвойкаў там шумам шумяць верхавіны,
Дзіўна-жахліва трапечуць асіны,
Ў цёмных, зялёных барох...

Бор там... Магутныя сосны-асілкі,
Белы бярэзьнік, высокі ды хілкі
Ягаднік, мох між сасон...

Цёмныя, поўныя страхаў гушчары,
Байкі сасоньніку — лесныя чары,
Птушкаў пад веткамі звон...

Вёсны там... Ласкі нясьмелыя сонца
Будзяць жыцьцё у радзімай старонцы,
Робіцца неба сіней.

Вецер пралётам цалуе, ласкоча,
Нешта вясеньняе, мілы, шапоча,
З таячых вее палей.

Таюць сьнягі... Ручаінкі зьбягаюць,
З грукатам, звонам зямлю заліваюць,
Доўгімі робяцца дні.

Ў сініх лясох зацьвітаюць пралескі,
Сэрца хвалююць праменныя блескі
Новае вечна вясны...

Лета там... Хвалі па жыце гуляюць,
Колер зялёны у срэбны зьмяняюць,
Срэбны у сіні, сівы...

Сьцежкай зялёнаю ў жыта забрацца —
Можна у золаце зьнікнуць, схавацца,
Жыта — вышэй галавы.

Косы зьвіняць на лугу — сенажаці,
Хочацца твар дзе ад сонца схаваці,
Горача... Нехта пяе...

Горача... Жніўныя песьні па нівах
Ціха ў тужлівых плывуць пераліваx.
З ветрам у даль іх нясе.

Восень там... Золата стромкіх бярозаў, —
Лісьць пачарнеўшы ад першых марозаў, —
Шу... пад нагамі шуміць.

Плавае золата з хвалямі ветру,
Срэбрам блішчыць у крыштальным паветры
Ніць, павучынная ніць.

Пекна... А потым туманныя далі,
Поле счарнеўшае: жыта пажалі...
Шэрая сетка дажджоў...

Высака крык жураўлінае стаі,
Крык, што, як плачам, душу надрывае,
Столькі ўжо чуты разоў!

Зімы там... Песьні глухія завеі,
Доўгія ночы, сьнягі без калеі,
Іскры халодныя зор.

Бор, што прыбраны у льдзіны, каронкі,
Высіцца пышны, багаты і стромкі,
Сьнегам завеены бор.

Ў вецьці бярозаў там, быццам сьлязінкі,
Тускла, халодна зіяюць ільдзінкі,
Сумна... А ў ясныя дні!

Пэрлаў, вагнёў, серабра пералівы,
Сьнежных раўнінаў праменныя дзівы...
Гэткай ня знойдзем зімы!

Вёскі там... Гразь, саламяныя стрэхі,
Колькі рабін у садку для пацехі,
Студня з даўгім жураўлём.

Колькі кустоў недацьвёўшай поўрожы,
Крыж дзерваны на канцы-раздарожжы,
Дах ад дажджу над крыжом.

Вечарам майскім вось тут, на расстані,
Людзі пяюць, адмаўляюць літаньні,
Кленчуць у шэрым пылу...

Кленчаць, а сонца за вёскай зьнікае,
Золатам чыстым, густым залівае
Крыж і людзей грамаду.

Верай магутнаю, сьветлаю сілай
Вее над гэтай грамадкай пахілай,
Вабіць прыгожасьцяй май.

Нават адзін абразок гэткі ў полі —
Й сэрца цябе не забудзе ніколі,
Родны мой край!

1924 г.

# Крыніца.

За ракамі, за гарамі,
За хваёвымі барамі
Ёсьць празрыстая крыніца.

Ўсе атруты, усе пакуты
З сэрца людзкага, бы путы,
Зьніме дзіўная вадзіца.

Лечыць цела, што збалела
І душу, калі змарнела,
Сілу, веру лье у грудзі.

І часамі, і гадамі
Да яе ідуць палямі
Горам зломаныя людзі.

Толькі трудная дарога
Да яе, нібы да Бога:
Іншым — сьмеласьці і сілы

Не хапае... з поўдарогі
Іншых пушчы і разлогі
Варачаюць... тых забілі

Сьлёзы, гора і заботы,
Думкі горкай адзіноты.
Тыя — веру ўжо згубілі
Ў сваю долю, ў свае сілы,
Ў сілы дзіўнае крыніцы.

А бяз веры, стой дзень цэлы,
А ня дасьць здароўя целу
Брыльлянцістая вадзіца.

Ды ня лёгка і далёка
Й тым, хто веруець глыбока,
Дашукацца тэй паляны,

Дзе на сонцы ў глыб старонцы
Ўецца рэчка ў даль бяз конца,
Гоіць душу, гоіць раны,

Над вадою, над жывою
Дзе ківаюць галавою
З ласкай стромкія бярозкі.

Дзе на словы людзкай мовы
Сьвежы, сонечны, бы новы
Лес шле згукі, адгалоскі,

Слабы, хворы ў цішы скора
Свае болькі, сваё гора,
Пазабыўшы, ўстрапянецца.

Сілы — дасьць яму крыніца,
Веру — сонца, што іскрыцца,
Сьмеласьць — неба, што сьмяецца.

Лес яму аб волі, долі
Зашапоча што-раз болей,
Прымірыць з жыцьцём нямілым.

Ў неба гляне і устане
Зноў з нядоляй на змаганьне
Верны сын зямелькі шчырай.

1921 г.

---

# Пралескі.

Мілыя, мілыя сінія кветкі,
Сьветлай вясны улюблёныя дзеткі!
Кветак ёсьць шмат, што за вас прыгажэй,
Толькі, пралескі, вы сэрцу бліжэй...

Гляну я ў вашыя сінія вочкі —
І быццам бачу гайкі і лясочкі,
Дзе з-пад сьнягоў пазіраеце вы,
Мілыя дзеці вясны!

Толькі зірну [illegible] на вашыя краскі,
Ўспомню вясновыя шчырыя ласкі,
Ласкі і сонца [illegible] нябёс,
Песьні, што ветрык прынёс
З сьветлых палёў, дзе зямля абсыхае,
Сонца дзе зраньня да ночкі гуляе.

Вашыя вочкі ў сабе адбіваюць
Сіняе неба і хмаркі, што таюць,
Будзіце ціхі, родны мне сум,
Нібы у лесе вясеньні той шум;
Будзіце сілы, што ўзімку драмалі,
Будзіце думкі, што скутыя спалі,
Будзіце мары надзей,
Тых, што за ўсё мне мілей...

Поўныя рожавай мглы пералескі
Вас гадавалі, красуньні-пралескі,
Неба ласкае вас, сонейка шле
Золата кос, пацалункі нясе
Ветрык вам сьвежы... вас любіць вясна,
Вас па лясох рассыпаець яна.

Вы усьцілаеце пуць ёй, вясьне,
Вы яе сымвал, адзнака яе...
Ці-ж не таму вы за ўсё мне мілей,
Дзеці вясеньніх надзей?

1921 г.

---

# Васількі.

У жытох расьцьвілі, расьцьвілі васількі...
На прасторах далёкіх, ня нашых палёў.
Між маўклівых, зялёных яшчэ каласоў,
На чужацкай зямлі расцьвілі...

Па пяшчаных узгорках палоскі бягуць,
Пад ґарою, ўнізе зелянеюць кляны,
Асыпаюцца яблыны — дзеці вясны —
Васількі па ўзгорках цьвітуць.

Кветкі мілыя, памяткі іншых палос,
Вузкіх межаў, паросшых румянкам-травой,
Кветкі — памяткі песьні жаўронка ціхой,
Песьні — звону з крышталяў нябёс...

Там, у гэных палёх вы ня гэтак цьвілі,
Гэткі сум не сьвяціўся у вашых вачох —
Ў пахілёных, у зьвяўшых напоў лепясткох,
Кветкі роднай, далёкай зямлі!

1924 г.

---

# Лятуценьні.

Дзе ў чужыне будзе сад
так гадаваны,
Дзе такі там хорам важна
збудаваны,
Што мне замянілі-б хату
і бярозкі,
Хату і бярозкі беларускай вёскі?

*Я. Купала.*

Часам, як толькі заплюшчу я вочы,
Бачу я край той, гдзе мора плюскоча,
Бачу я фарбы паўдня.

Бачу я мора пахнючае кветак,
Белыя дрэвы, прыгожа ўсё гэтак
Ў ласках гарачага дня.

Бачу нябесныя сінія далі,
Бачу узоры, што ночы саткалі
З буйных палудзенных зор..

Гэта — краіна, дзе я нарадзілась,
Гэта — ўсё тое, чаму я малілась,
З чым я вяла разгавор.

Толькі чаму-ж маё сэрца ня йрвецца
Ў тую краіну, чаму яно б'ецца
Ціха, спакойна саўсім?

Мусіць, чужыя паўдзённыя чары,
Новы абраз той, тускнеючы, стары
Выціснуў ў сэрцы маім.

Нашае сіняе, бледнае неба,
Нашы палоскі нясьпелага хлеба,
Пэўне, што сэрцу радней.

Нашы маркотныя, мглістыя ночкі,
Нашы бярозы, рабіны, дубочкі,
Мне за ўсе чары мілей.

Ці мне заменіць блакітнае мора,
Ці мне заменяць высокія горы,
Сонца чужое паўдня, —

Нашае бледнае сонца ціхое,
Мілае хвораму сэрцу вясною
Мілае мне без канца?

Не, бо ля сьветлага сіняга мора
Вечна аб шчасьці ідуць разгаворы,
Вечна там сонца гарыць.

Бо там бяз працы, а родзяць зярняты,
Бо там чужое нам, вечнае сьвята,
Тамака сэрца маўчыць.

Тут-жа у нас па гайкох, пералесках
Посьле *зімы* зацьвітаюць пралескі,
*Сьцюжу* зьмяняе вясна.

Тут пасьля *гора* жыцьця шлях сьвятлее,
Тут пасьля *сьлёз* расцьвітаюць надзеі,
Тутка і ў сэрцы вясна!

1921 г.

---

# Песьня

Па вузкіх палосках, па нівах
Ляціць яна ў сумную даль
І чутны ў яе пералівах
Заўсёды — ці смутак, ці жаль.

Ня шэпчуць ў задуме бярозы,
Ня жаліцце рэчцы чарот, —
Не, гэта адвечныя сьлёзы
Свае вылівае народ.

Ня хіліцца ў полі каліна,
Вітаючысь з яснай зарой, —
Не, гэта гаруе дзяўчына
Над доляй гаротнай сваёй.

Ня ветры у полі шырокім
Панура і глуха шумяць, —
Не, жней гэта горам глыбокім
Цягучыя песьні зьвіняць.

Відаць, што гаротна іх доля,
Што шмат у іх жыцьці клапот,
Бо ў песьнях нячутна ніколі
Вясёлых ці радасных нот...

1921 г.

---

# Вясна.

З кожнай хмарачкі ў небе празрыстым,
З кожнай лужынкі сьветлай і чыстай
Усьміхаецца ясна вясна!

Вабяць ласкай нябесныя далі,
Ручаі звон і грукат паднялі,
Гэта-ж праўда падходзіць вясна!

Сьнег ляжыць яшчэ шэры і брудны
Пад узгоркам, а вецер марудны
Ўжо шуміць у галінках кустоў.

Абсыхаюць у садзе дарожкі,
А маленькія яблынак рожкі
Нібы рвуцца да сонца лучоў!

Сэрца б'ецца трывожна, няроўна,
Мне і сумна й вясёла-чароўна,
Вусны ціха шапочуць: „вясна"...

Штосьці новае просіцца, рвецца,
Ўсё сягоньня зрабіла-б, здаецца,
Бо запраўды-ж падходзіць вясна!

1921 г.

*Пасьвячаецца маім тава-
рышкам Оле, Лідцы і Галі.*

* * *

Сьветла, спакойна, лёгка бяз канца,
Грэе і лашчыць вясеньняе сонца.
Сінія далі ў імгле нягустой,
Лес прад вачмі вырастае сьцяной.
Сьнег між кустамі, між пнямі бялее,
Ветрык вясеньні, жартуючы, вее
З поля, дзе густа чарнее зямля,
З поля, дзе сёньня пануе вясна.
Там, дзе з блакітам зьліваюцца далі,
Горы палоскаю сіняю ўсталі,
Места там недзе між гор залягло,
У дымцы хавае сваё хараство.
Звоняць у Вільні ледзь чутна і гукі
Сэрца чапаюць знаёмаю мукай.
Ціха... і тут, паміж соснаў старых,
Уецца дарога да елак густых,
Уецца, зьнікае, ізноў выбягае,
Поле і сьнег у кустох агібае,
Уецца лагчынкай, дзе цені ляжаць,
Сосны дзе ў сіняе неба глядзяць.
Ціха, ўсё ціха... Заплюшчыўшы вочы,
Тут-бы, на сонцы, сядзела да ночы,
Твар прылажыла-б да цёплай зямліцы,
Слухала-б грукат вясеньні крыніцы,
Слухала-б тое, што ветрык пяе,
Усё, што гаворыць душы аб вясьне...
Сьветла, спакойна, лёгка бяз конца,
Грэе й ласкае вясеньняе сонца!

1921 г.

*Пасьвячаецца М. Гарэцкаму.*

# Красавік.

Неба сіняе, сіняе, сіняе
Зямлю будзіць ад доўгага сна.
Адусюль смутна-пекнай княгіняю
Пазірае спакойна вясна.
На узгорку кусты пахіляюцца,
Ветрык лашчыцца, штось ім пяе.
Тут з пралескай пралескі сьплятаюцца,
Сірацінкай фіалка цьвіце...
Там — бялеюць вяночкі нясьмелыя
Нейкіх кветак вясеньніх, а там...
Там яшчэ краскі, жоўтыя, белыя,
Дар вясны зарунеўшым палям.
Як тут ціха, ні шуму, ні клопату,
Ані думкаў, ні смуткаў няма.
Я ня чую душы, яе ропату,
Бачу толькі, што ўсюды вясна!
І нічога саўсім не жадаецца,
Ні каханьня, ні сьветлых мінут,
У душы маей штось абрываецца,
Штось нячутна канаець, а тут...
Тут фіялкі цьвітуць цёмна-сінія,
Ветрык дыхаець пахам вясны.
Адусюль яна пекнай княгіняю
Сее новыя, сьветлыя сны!

1921 г.

---

# М а й.

Абляцелі вішні... Разгарнуліся клёны,
Зашумеў бы ўлетку сьвежы, новы гаї.
Праляцеў нячутна красавік зялёны,
На зямлі пануе сьветла-пышны май.

Пасінела неба... Ласкай залатою
Залівае сонца ціхія палі.
Смагаю акрыты, вузкай паласою
Таюць плямы-горы недзе удалі.

Сонца лашчыць, грэе. Хораша у полі,
Зацьвітаюць краскі між травы густой,
Чую ўсей душою, што ізноў на волі,
Што ізноў жаданы веснавы настрой!

Цень зваліўся сіні ад бяроз зялёных
На дыван мурожны, заліты сьвятлом.
На кустох рабіны, дожджам напаёных
Сьвецяцца сьлязінкі. З маладым лісьцём

Ветрычак жартуе, а ўгару, у неба
Цягнуцца галінкі, заплятаюць сецьць.
Пад гарой палоскі маладога хлеба
Ярка зеляненоць... Хочацца глядзець.

Заглядаць бяз конца у блакіт празрысты,
Ні аб чым ня думаць, толькі смутна сьніць,
Сьніць аб сінім небе і аб полі чыстым,
Аб гарачым сонцы, што ў душы гарыць.

1921 г.

---

# Н о ч.

Загасьлі апошнія косы
Кароткай маёвай зары.
І чыстыя зоры, як росы,
Як сьлёзы, зазьялі ўгары.

Растаялі лёгкія хмары
І неба зрабілась бяз дна:
Спавіўшы імглою абшары,
Там ноч панавала адна.

Акрыўшыся хусткай туману
Нячутна зыйшла на зямлю;
Над сьветам, паснуўшым да рана,
Раскінула ўладу сваю:

Спляла сіняватыя цені
Ад цёмных бяроз і кляноў
І месяца косы-праменьні,
Зьвяла на зямлю з небясоў.

Збудзіла начныя згаворы,
Шум-шэлях цяжкое травы.
Сьмяялася з жабяга хору,
І плакала ў плачы савы.

Да сэрца людзкога паволі
Вужакай сьлізкой прыпаўзла,
Старыя, забытыя болі
Ізноў паднясла, падняла.

Збудзіла ў адных, няіначай —
Як жаркай крануўшы рукой, —
Найгоршыя мукі распачы,
Ў другіх — найвышэйшы спакой...

1925 г.

# На сенажаці...

Косы зьвіняць... К сонцу ўносяцца зыкі,
 Поўна жыцьця жоўтацьвет-сенажаць,
Дзіўна-вясёла ад гэтай музыкі,
 Косы зьвіняць...

Кмена пах цягне у мокрых пракосах,
 Сенам як пахне ў пушыстых капах!
Дыхае поле у сонцавых косах,
 Кмену йдзе пах...

Песьню касцы запяялі нясьмела,
 Песьняю звоніць уся сенажаць.
З гукамі ўдаль-бы, здаецца, ляцела...
 Косы зьвіняць...

1925 г.

---

# Улетку.

Жамчужнай мглою хмаркі абвязалі
 Нябёсы, сонца пуць.

Па залатых жытох сярэбраныя хвалі
 Плывуць, плывуць, плывуць...

Які прастор кругом! Бяз берагу, бяз краю
 Калышуцца жыта!

Ў ружовым полымі вятраны дзень згарае,—
 Як цёпла, любата...

Шматфарбным дыванам, красой-вясной сатканым
 Лажыцца сенажаць.

І ў дзень, і на зары, і ўвечары, і зрана
 Там жаўранкі зьвіняць.

І звонкі іх прызыў, І лёгкія ўздыханьні
Красуючых палей *), —

Нясуцца да нябёс малітвай дзякаваньня
Вышэй, вышэй, вышэй...

1925 г.

---

*Пасьвячаецца Ф. К.*

# У лесе.

Лес вітаў нас нячутнымі словамі,
Нам сьмяялася неба празрыстае,
Над каронамі соснаў хваёвымі
Хмаркі таялі лёгкія, чыстыя!

Па узгорках, па травах жаўцеючых
Косы сонца гулялі, зьліваліся.
Па аўсох маладых, ужо сьпеючых
Хвалі плаўна плылі, разьбіваліся

Штось казаў бор... Дубы нярухомыя
Слалі з ветрам нам шэпты забытыя
І здавалісь такімі знаёмымі
Словы іх, з мовай сэрцайка зьлітыя.

1922 г.

---

*) Палёў.

# Вячэрні абразок.

Ўжо вечар... З яснага блакіту
Зьнікаюць фарбы, бліскі дня
І чыстым золатам заліта
Ціхіх палёў далячыня.

Істужкай сьцежка ўецца ў жыце,
Зьбягае ўніз, паўзе вышэй,
Праз ручаёў сталёвых ніці
Бяжыць кудысь далей, далей...

На ўзгорку млын-вятрак ляніва
Часамі крыльлямі ўзмахне
І стадка галубоў пужліва
З-пад даху ў неба-высь памкне...

Лятуць, купаюцца ў паветры,
Зьнікаюць, круцяцца ізноў, —
Лісты, што ў восень носяць ветры,
А захад іх фарбуе ў кроў.

1924 г.

* * *

Вечар неба хварбуе ў гарачыя тоны,
Чыстым золатам густа залоціць рабіны, —
І здаецца паветра густым і зялёным,
Як вада у вазёрах, зялёных ад ціны.

Гаснуць косы на вежах готыцкіх касьцёлаў,
І, зьніжаючысь, шклы запаляюць агнямі.
Зоры — вочы малых засмучоных анёлаў, —
Мігацяцца у хмарах, парваных над намі.

Час таёмны, ня ноч і ня дзень, калі цені,
Цені ночы зьліваюцца з косамі сонца,
Калі хочацца раптам устаць на калені
І стаяць так бяз руху, маўкліва, бяз конца...

Ў гэты час ад'жывае у думках старое,
Ўспамінаюцца даўныя сэрца хваробы...
І так лёгка душою — вячэрняй парою —
Зразумеці сусьветныя сумы й жалобы!..

1923 г.

## Разьвітаньне.

Тонкай мглой абвязаліся сінія далі,
Сіняватыя далі на ўзмежжы нябёс.
Па жытох расплыліся вятраныя хвалі,
Ветра плаўныя хвалі, што вечар прынёс...

І паволі, паволі чырвоным пажарам,
Разгарэлась чырвоным пажарам усё:
І жыта, і кляноў верхавіны, і хмары,
І дняўное, няпоўнае ймкненьне — жыцьцё.

Дзень канаў з недаверчывай, кволай усьмешкай,
З нявыразнай усьмешкаю хворых людзей,
І зьвінелі яму разьвітаньне узьмежкам
Ізумрудныя *) конікі — дзеці палей:

Разьвітаньне з сьвятлом, разьвітаньне навекі,
Разьвітаньне навекі з жыцьцёвай маной,
Калі чорная ноч моцна сьцісьне павекі,
Моцна сьцісьне павекі над сьпячай зямлёй...

1925 г.

*) Зялёныя, шмарагдовыя.

## Перад ночай.

Цямнее заход над палоскаю бору,
Праз сон штось ляніва шапочуць таполі,
Жамчужных хмурынак растаялі сеці
Высока... Халоднае поўначы дзеці —

Рассыпаліся зоры ў нябесным раздольлі,
Над цёмнаю, роўнай палоскаю бору...
І ноч агарнула зямлю цішынёю,
І зьніклі у цемры астатнія гукі...

А сэрцу і думкам? — няма ім спакою,
Плывуць і зьмяняюцца думка другою,
Плывуць так спакойна, халодна, бяз мукі,
Хоць ноч агарнула зямлю цішынёю.

1922 г.

---

## Ночка.

Ночка ціхая, расістая
Ішла над палямі-лагчынамі.
Зоры паліла празрыстыя
Ў небе, паміж аблачынамі.

Кідала кроплямі росными
Ўправа, улева, ўгару.
Пахамі мляўкімі, млоснымі
Дыхала ў сонным бару.

Чуць варушылі галінамі
Ліпы, красой абсыпаныя.
Ў шэляху траваў з травінамі
Чуліся гукі нязнаныя...

Над балотамі бяздоннымі
Зьзялі агні дзе-ня-дзé,
Млелі струхлелыя, сонныя,
Івы ў ліпкім тумане...

Ночка, твайм і гэта чарамі,
Ночка, тваймі гэта дзівамі
Збуджаны зоры між хмарамі,
Сплецены мглы па-над нівамі...

Ты гэта, вечна чароўная,
Ў соннае сэрца ўвайшла, —
Думкі мае нявымоўныя
Ўсе зразумела, знайшла...

1925 г.

---

## Лес шумеў.

Лес шумеў... Ледзьве чутнымі гукамі
Рокат соснаў высокіх сплываў.
Вецер дзіўна-прыгожымі згукамі
Новы шэпт, новы сьпеў выклікаў.

Паміж комлямі соснаў чырвонымі
Зьзяў крывавы васеньні заход.
Далякосьцямі неба бяздоннымі
Выплываў белых зор карагод.

А між імі з усьмешкай халоднаю
Ўсходзіў месяц, прыбраўшыся ў мглу.
Гэны вечар малюнкамі роднымі
Выклікаў нейкі смутак — тугу.

Смутак рос... І зыбучымі хвалямі
У душу уліваўся маю,
Як туман неабсяжнымі далямі
Залівае у восень зямлю.

1922 г.

---

# Жоўтыя клёны.

Жоўтыя клёны, у фарбах асіны,
Грозьдзі крывавыя ў вецьці рабіны,
Сіняе неба... Ў начныя часіны
Дождж з дагараючых зор.

Ў травах пажоўклых бліскучыя ніці, —
Людзям ніколі танчэйшых ня зьвіці,
Астры астатнія ў садзе, — ня рвіце:
Восені гэта убор.

Восень, прыбраўшыся ў кроў і у сонца,
Ў золата — лісьце, ў жамчуг—валаконцы,
З ліры сваей здабывае бяз конца
Струнаў глухі перабор.

Раняць душу ледзьве-чутныя гукі, —
Самі сабой апускаюцца рукі, —
Родзяць у сэрцы жальлівыя згукі,
Восені песьню-жальбу.

Родзіцца песьня і ў небыт сплывае
Разам з лістамі, што клён абтрасае,
З сонцам, што ў чырвані дрэў дагарае,
З першаю кропляй дажджу...

1922 г.

---

# Восень.

Як ня любіць мне восень залатую,
Калі праз вопратку асін густую
Тон прабіваецца чырвоны—слаўны тон
І ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён?

Як ня любіць мне восень залатую,
Калі на ніву зжатую, пустую
Кладзецца уначы, як малако, туман
І павучыньня шмат на хмызьняку палян.

Як ня любіць мне восень залатую,
Як ня любіць мне частку году тую,
Калі я веру ўсім, калі душа гарыць
І хочацца так век, хоць сумаваць, а жыць...

1922 г.

---

* * *

Сыплюцца з клёнаў лісты,
Сыплюцца ціха, жахліва,
Крыюць зямлю і кусты,
Золатам крыюць маўкліва.
Сыплецца саду краса.
Кроплі дажджу, як раса,

Жутла блішчаць, без адліва.
Восень... дажджы ўжо ня дзіва...
А над зямлёю старой
Сунуцца шэрыя хмары,

Цені кідаюць парой,
Цені на нівы, папары.
Хмары плывуць і растуць,
Хмары туманы нясуць,

Што пакладуцца на нівы.
Восень... туманы ня дзіва...
Сунуцца хмараў клубы
Ўдаль над прасторамі ніваў.
Сыплюцца з клёнаў лісты,
Сыплюцца ціха, жахліва.

Томіцца сэрца, баліць,
Рвецца памерці і жыць,
Сэрца смуціцца маўкліва.
Восень... дык смутак ня дзіва...

1922 г.

---



У небе пылаюць чырвоныя хмары,
Як горкія мары, на нівы, папары
Кладуцца вячэрнія цені.

Ад пахаў гарачых, рака, бач, самлела,
Нячутна, нясьмела сьвятло адляцела,
Сплёў месяц правідныя сеці.

Ноч сонныя дрэвы прывабіла ласкай,
Таемнай, няцяжкай маўкліваю казкай
Апошнія сьцішыла гукі.

Адкінуў злы ветрык далёка жалейку,
Што хмару-зладзейку будзіла зьняцейку
Адкінуў і ў вецьці схаваўся.

Адна ноч над цёмнай зямлёй варажыла,
Сны-чары насіла, гальлё варушыла,
І горка, а дзіўна маўчала.

А хто разгадаў яе сумы-трывогі,
Мо' лес вечна строгі, мо' месяц двурогі?
Не, хворае сэрца людзкое!

1922 г.

---

## Восень.

Клёны асыпалісь... Золата й фарбы
Крыюць зямлю дарагім дыванам.
Поўныя жмені лістоў тых узяў-бы,
Восенным сьплёў-бы іх пышным вянком.

Таюць хмурынкі у небе высока,
Хвалі туману над Вільняй плывуць,
Места раскінулась ўнізе, далёка...
Вежы касьцёлаў у неба глядзяць,
Цэркваў блішчаць залатыя галовы,
Цёмнымі плямамі дрэвы ляглі...
Сіняй палоскаю бор той хваёвы
Ледзьве віднее за стужкай Вяльлі...

Чуюцца, чуюцца восені словы
Ў фарбах, паўтонах лісьця і нябёс,
Ў лёгкім дрыжаньні бярозаў бяз мовы,
Ў сьвежасьці льдзістай, што вецер прынёс...

1921 г.

---

* * *

Ціха плыў месяц між хмараў празрыстых,
Зоры ранілі халодныя сьлёзы,
Вецер ірваўся між клёнаў бязьлістых,
Вецьце калыхаў маўклівых бярозаў.

Таялі плямы туманныя ценяў
Ў срэбры сьнягоў бесканечных, зімовых.
Сьветла было ад малочных праменьняў,
Сьветла было мне ад думак тых новых.

Нейкая дзіўная сіла ўставала
Ў сэрцы калісьці пакорным і хворым,
Месяц, здаецца, рукой-бы дастала,
Зоры сарвала-бы ў неба прасторы.

Долі пайшла-бы шукаці далёка
Я для зямліцы, што сьпіць без прасьвету
І разьліла-бы, як мора, шырока
Шчасьце па цэламу беламу сьвету.

1922 г.

---

## Зімовы ранак.

Ураньні зімовае сонца нясьмела
На рожавым небе прыгожа ўзыйшло.
Як быццам чагосьці стыдалась яно,
Калі з небясоў на зямельку глядзела.

Пад гэтым паглядам у белых палёх,
Рассыпаўшысь, іскры ў сьнягу зазіялі,
А вольхі, дык тыя у шкло пазіралі
Замерзшых стаўкоў, што схаваны ў кустох.
На вокнах вузоры вагнём заігралі, —
І ўсё гэта толькі ад сонца лучоў! *)

Ці ў жыцьці ня гэтак нярадасных днёў
Трывогі пад сонца паглядам прапалі?
Ці праўда, што плакаць ня хоцацца ўжо,
Што сэрца сагрэўшы надзеяй адною,
Ты ціха сьмяешся з марознай зімою,
З сьнягамі, што твораць яе прыгаство?!

1921 г.

---

## Сьняжынкі.

Эх, круцецесь, сьняжынкі, круцецесь
Над пакорнай, маўклівай зямлёй.
Прыласкайце яе, прытулецесь
Да палёў, агалёных зімой.

Лес, шляхі, ручаі, што сьціхаюць,
Абвяжэце парчой сьнегавой,
Толькі гляньце — усе вас чакаюць:
Не шапочуць лісты між сабой.

*) Праменьвяў, кос.

Не глядзіцца у лужынкі сонца
І ня жаляцца вольхі яму,
А з марозу гараць валаконцы
Павучыньня ў заціхшым гаю.

Гляньце, гляньце, як хвоі хінуцца,
Як маркоцен рад тонкіх асін —
Толькі грозьдзі парой зварухнуцца
Счырванеўшых у садзе рабін.

Над лясамі, над цэлай зямлёю,
Эх, круцецесь, сьняжынкі, барджэй!
Абагрэйце іх ласкай сваёю,
На душы, можа, стане лягчэй...

1921 г.

---

## Сьнег падаў.

Сьнег падаў з неба іскрачкамі зор...
Ён крыў зямлю каронак дыванамі.
Чуць вечер шапацеў між голымі клянамі
І ўдаль ляцеў туды, гдзе сьніў прастор
Ды пасам зубчатым сінеўся бор
Над агалёнымі даўно палямі,
Што скутыя ляжалі маразамі,
Адпачываючы ад летніх змор...

Адпачывала ўсё: і лес, і поле,
І неба глыб... А чалавека доля?
Не, доля людзкая — усьцяж цярпець,
Шукаць чагось з нязнанаю тугою,
Глядзець на крыўды, зло і лятуцець
Аб яснасьці нязнанага спакою...

1924 г.

---

# Калі ноч запануе...

Любяць людзі прыгожыя песьні,
Любяць сумныя гукі жалейкі,
Як пагожыя дні на прадвесьні,
Як раздольле, як сьпеў салавейкі.

Любяць казкі аб дзеях мінулых,
Аб жыцьці сваіх продкаў свабодных,
Аб гушчарных лясоў шумах-гулах,
Аб глыбокіх раках многаводных.

Любяць песьні аб славе, аб долі,
Аб асілках вялікіх, магутных,
Аб братох, што канālі ў няволі,
Аб часінах старонкі пакутных.

Ня было мо' сапраўды нічога,
Мо' і песьні і казкі мінучы, —
Чуе сэрца ў іх згукі былога,
А душа уздыхае балюча.

Тыя ўздыхі мо' ветрык падхопіць,
Панясе і разьвеець у полі...
А калі ён сканае паволі,
Калі ў хмарах бліск сонца утопіць

І туман папаўзе над лясамі,
Над асінаў сям'ёй палахлівай,
Над зялёнай нясьпелаю нівай
Дарагімі, маўляў, паясамі;

Калі ноч запануе усюды,
Калі выпаўзуць ночныя чары,
Духі-цені агорнуць абшары
Й сны паўстануць, сны-мары і цуды;

Калі смутныя ночныя гукі
Паліюцца з-за хваляў туману
На глухую лясную паляну
І замрэ ўсё ад дзіўнае мукі;

Як жыцьцё прыабернецца казкай,
Калі з казкаю сэрца зьліецца, —
Мо' старое ў душы ўстрапянецца
І прывабіць нязьведанай ласкай?

Мо' ўявяцца прыгожыя песьні,
Мо' ўявяцца напевы жалейкі,
Уявяцца, як дні на прадвесьні,
Як раздольле, як сьпеў салавейкі.

1921 г.

---

# Мэта жыцьця.

Мэта жыцьця, кажуць людзі бяз сілы,
Мэта жыцьця — дачакацца магілы.
Як пражывеш ты, ці чэсна, ці не, —
Ці ня ўсё роўна людзям і табе?

Мэта жыцьця, кажуць поўныя сілы —
З доляй змагацца да самай магілы,
Веры ня траціць і страху ня мець,
Сьмела байцамі памерці, згарэць...

Мэта жыцьця, кажуць людзі — ня йрвацца
Ў неба, а толькі зямлі прыглядацца,
Зьведаць грахі ўсе, усё спрабаваць,
Каб не так сумна было паміраць.

Мэта жыцьця, кажуць, гэта — хаваці
Сэрца ад смуткаў і сьлёзаў ня знаці.
Думкі аб праўдзе... Гэт, глупства усё,
Мэта жыцьця — захаваці жыцьцё!

1922 г.

---

# Жыцьцё...

Клічуць вечарам зоры у сусьвету прасторы...
Поўны нейкае зморы, ці замучаны, хворы
Ня ідзе чалавек...

Ночкай месяц варожа так маўкліва, прыгожа...
Гэй, паслухае можа, кіне жыцьце нябожа?
Не, ня йдзе чалавек...

Не, ня йдзе, хоць паволі сэрцам рвецца да волі,
Што-дня болей нудзіцца — і жыве мімаволі,
Несьвядома амаль,

Хоць ад самага раньня яго жыцьце — змаганьне,
Сумаваньне па шчасьці, ці за долю дрыжаньне,
Неакрэсьлены жаль...

1923 г.

---

## Шчасьце.

Шчасьце, як сонца: маленькая хмарка
Пройдзе па небе, вышэй, сярод дня, —
Сонца ўжо сьвеціць так жутла, нinfярка,
Момант — і сонца няма.

Шчасьце, як вішняў вясеньнія краскі:
Вецер павее, заплача вясна, —
Ссыплюцца сьнегам на дол яны гразкі,
Момант — і краскаў няма.

Шчасьце, як сьветлыя, ясныя думы:
Рэзкае слова, увага адна, —
Ўжо абыймаюць душу маю сумы,
Момант — і думкаў няма.

1923 г.

---

## Нядасяжнае...

Мая душа аж да краёў паўна
Прыгожай, сьветлай нейкай сілы
І ўсё здаецца ясным, мілым:
І неба сіняе, і хвалі тумана,
Над местам рэдкія, і залатыя клёны,
І стромкіх, тонкіх хвой убор цёмназялёны.
Здаецца, шчасьце дзесь каля мяне, так блізка,
Здаецца, я магу узяць яго рукой,
А не магу... Маўляў, як над ракой
Схіляюцца кусты вярбіны нізка, нізка,
А ўсё ня здолеюць напіцца тэй вады,
Што вабіць бедных іх і тыдні, і гады...

1923 г.

---

## Чаму...

Чаму у сім жыцьці нямілым
Няпраўда, дзе вокам ня кінь,
Чаму адным славу і сілу
І шчасьце жыцьцё аддзяліла,
Другім — толькі гора, хоць згінь!
Чаму гэта ў полі няроўна
Пад сонейкам краскі цьвітуць?
Чаму адны вабяць чароўна
Сваім хараством нявыслоўным,
Другія, схаваўшысь, растуць?
Ніхто й ня шукае іх, сьпячых
Між мяккай шаўковай травы,
Ім ласкаў шкадуе гарачых
І сонца і вецер, што плача,
Над імі ў васеньнія дні.

Чаму нават ніваў палоскі
Няроўна на сонца глядзяць?
Чаму адны ліпкі, бярозкі
Шумяць, шэлясьцяць каля вёскі,
Другія ў гушчары маўчаць?
Чаму гэта ясныя зоры
Парознаму ў небе блішчаць:
Рассыпаўшысь дзесьці ў прасторы,
Адны ткуць са срэбра вузоры,
Другія — дык ледзьве гараць?
Чаму адна песьня аб долі,
Аб шчасьці прыгожым пяець,
Другая, губляючы ў полі
Свае пералівы — ніколі
Да шчасьця душу не завець?
Чаму ёсьць няроўнае гора
На сьвеце халодным, благім?
Адно — забываецца скора,
Другое, — глухое, як мора,
Ўвесь час раніць смуткам сваім?
Чаму адны вечна працуюць,
Іх век — няпрыхільная ноч,
Другія — жыцьцё ўсё сьвяткуюць,
Іх сны і надзеі гадуюць,
А гора — хаваецца проч!
Чаму штосьь вялікае доля
Стварыць наказала адным,
Іх знаюць і шчасьце, і воля...
Другіх — няпрыметна ніколі.
Пакрыўджаных богам самым?
Ня ім клікаць, цёмным і кволым,
Да новага жыцьця людзёў:
Ніхто й не пачуець іх мовы,
А вецер разьвееець іх словы
Між сіняй імглы нябясоў.
Чаму? Мо' няроўна вясною
Для ўсіх зьзяе сонца з нябес?

Мо' толькі для моцных душою
Вясна луг акрыла травою
І сьвежай зяленінай лес?
Не, ласкі свае падзяліла
Нам сонейка роўна... Усё
Праменьнямі густа пакрыла
І толькі у сьвеце нямілым —
Няпраўда, і зьдзекі, і зло...

1922 г.

---

## Калі людзі пакрыўдзяць цябе...

Калі людзі пакрыўдзяць цябе,
Калі хочацца плакаць, маліцца,
Ты ідзі у цямнеючы лес:
Там у цішы так лёгка забыцца!
Быццам прыйдзеш ты ў храм *) незямны,
Ў храм, гдзе дзіўна шасьцяць галіны.
І пачуеш у шэпце лісьця:
— „Ты даруй неразумным, як я!“
І адыйдзе паволі нуда...
Ўцяміш ты, што нядоля твая —
Гэта кропля у моры жыцьця,
Дзе усюды і боль, і бяда...

1921 г.

---

*) Хорам.

* * *

Выйдзі ўночы у чыстае поле
І зьлічы ў небе сьвечачкі зор...
Ня зьлічыць іх ніколі, ніколі,
Бо ўсё болей іх знойдзеш і болей,
Асыпаючых з божае волі,
Неабсяжны нябесны прастор.

Выйдзі ўраньні на бераг лясісты
Адбіваючых сонца вазёр,
І знайдзі у іх хвалях празрыстых
Хмарак будучых пыл серабрысты,
Ці жамчуг дробных кропляў расістых, —
Іх — ня знойдзеш у хвалях вазёр...

Выйдзі ўдзень ты у гай нярухомы
І услухайся ў шэпты галін.
Сум пачуеш у ім ты знаёмы.
Дык скажы, чаму гай той зялёны
Такі сумны, лістоў-жа мільёны
Плачуць, плачуць усе, як адзін?

Выйдзі ўвечары к ніве нясьпелай
І зірні на чырвоны заход.
І душой папрабуй ты збалелай
Разгадаць, скуль той ветрык нясьмелы,
Нівы, неба, дым хмарачак белы,
Тыя самыя з году у год.

Скуль усё: ўночы смутныя зоры,
Ўраньні золата сонцавых кос,
Ўдзень ціхія лясоў разгаворы,
На заходзе — хмар яркае мора,
А ў душы вечна дзіўнае гора,
Горкі смутак нявылітых сьлёз?

Скуль усё, хто стварыў нашу долю,
І каму нам маліцца уноч?
Ды й ці трэба маліцца? — Бяз волі
Не здабудзецца шчасьце ніколі:
Будзеш плакаць, як вецер у полі,
Грудзі рваць будзе сум без патолі, —
Й без адказу адыйдзеш ты проч!

1921 г.

---

## На матыў хаўтурнага марша.

Гукі прыгожыя маршу хаўтурнага
Ціха ў паветры імглістым плывуць.
Сэрца са сьвету халоднага, хмурнага
Ў край невядомы, далёкі вядуць.
Гукі дрыжаць, гукі плачуць, губляюцца,
Гукі растуць, рвуцца, стогнам канчаюцца.
З імі і сэрца дрыжыць:
„Досі ўжо, досі ўжо жыць!“

„Кінь ты жыцьцё надарванае, сумнае,
З доляй змагацца ўсё роўна ня час.
Сэрца-ж тваё, як засьнець неразумнае, —
Людзі ўспамянуць: і гэты загас!
Гукі хаўтурнага маршу згаджаюцца
З гэтаю доляю... Чуеш: змагаюцца
Быццам з жаданьнямі жыць?
„Досі ўжо“ сэрца дрыжыць.

Досі ўжо долі шукаці шчасьлівае...
Сьветлыя думкі, надзеі — мана.
Толькі блісьне шчасьце зоркай зваблівую —
Глянеш, ужо і загасла яна!

Досіць... а гукі дрыжаць, надрываюцца,
Плачуць, а потым ізноў разрастаюцца,
Лісьць пажаўцелы у тон ім шуміць:
„Досі ўжо, досі ўжо жыць!“

Ў тэй невядомай краіне за хмарамі
Вечная ціша, спакой, вечны сон
Сэрца, зямнымі пранятага чарамі,
Там яно, сумнае, сьціхнець, як стогн.
Там толькі гора нячутна жыцьцёвага,
Сонца ласкавага, сонца маёвага —
Вечна сьвятло там гарыць:
„Досі ўжо, досі ўжо жыць!“

Гукі прыгожыя маршу хаўтурнага
Ціха ў паветры імглістым плывуць.
Сэрца са сьвету халоднага, хмурнага
Ў край невядомы, далёкі вядуць.
Гукі дрыжаць, гукі плачуць, губляюцца,
Хваляй па могілках зноў разьліваюцца.
З імі і сэрца дрыжыць:
„Досі ўжо, досі ўжо жыць“!

1921 г.

---

## Ты спытайся.

Толькі ў час, калі сьмерць твая прыйдзе і ўстане,
Калі холад пачуеш адвечны ў душы, —
Зразумееш жыцьцёвае шчасьце... Скажы,
Ці шкада табе жыцьця, што ў сэрца загляне
З ласкай шчырай апошні ўжо раз?
Пачакай... Яшчэ маеш ты час...

Пачакай... Ці ты жыў і змагаўся з бядою,
Каб загінуць, прапасьць, ня прыйсьці на зямлю,
Ня зірнуць, што зрабілі з старонкай тваёю,
Ці разьвеяла, родная, гора-нуду

Між палёў, між людзёў хоць на час?..
Ты спытайся... пакуль не загас...

Ты спытайся, што там, дзе багаты і бедны
Маюць роўную долю і роўны спакой,
Дзе шчасьлівых няма, дзе няма горкіх, бледных,
Тых, што змучаны вечнай жыцьцёвай тугой.

Ты спытайся... ў апошні ўжо раз
Дасьць жыцьцё табе, пэўна, адказ...

Ты спытайся, ці ёсьць што ў блакіту бяздонным,
Чым там душы жывуць і шукаюць чаго?
Бо калі ўсе там роўны, ў тым царстве бяссонным,—
— Там няма і змаганьня, навошта яно?

Там ні злобы няма, ні пытаньняў гарачых,
Там і мэты няма, там — нічога няма!
Як жыве там душа адыйшоўшых і сьпячых
У халоднай зямлі, ў змроку цішы і сна...

Як там жыць, чым там жыць?.. Там і сэрца ня б'ецца,
Ня сьціскаецца сумам прыемным яно.
Там — шырокай крыніцаю гора ня льлецца,
Не гарыць там і дзіўнага шчасьця сьвятло...

Ты спытайся, ў чым шчасьце там душы знаходзяць,
І ці ёсьць яно, шчасьце, ці гэта мана?
Мо' дарма нас жыцьцё снамі вечнымі зводзіць,
Сьмерць... ці дасьць табе долю і шчасьце яна?

Ты спытайся... пачуеш адказ,
Бо ў апошні пытаешся раз...

1922 г.

# Пытаньне...

Даль, няясная сіняя даль
Нікне, тае над гораў каронаю,
Леса пас палатнінай зялёнаю
Адбіваюцца ў яснасьці хваль,
Што блішчаць, як люстраны крышталь...

Цішыня залягла над старонкаю,
Дрэвы ўзморы маўкліва стаяць.
Толькі жаўранак з песьняю звонкаю
Узьляцеў па-над луг-сенажаць,
Дзе калматыя пчолы гудзяць
І каронкаю сьнежнаю, тонкаю
Зоры белых стакратак стаяць...

Божа! Жыцьце штодзеннае, яснае
Ціха сходзіць, сплывае у даль,
Пакідаючы роспач і жаль,
Па мінулым тугу перадчасную,
Што у сэрцы зьвініць, як крышталь...

І пытаньне ўстае мімавольнае:
Што-ж зрабіў ты з натхнёнай душой,
Як праходзіў жыцьця пуціной?
Што зрабіў з тваёй воляю вольнаю?
Бо ня вернеш былога, на жаль!

1924 г.

---

# Бесканечнае...

(*Насьлядаваньне*).

Калі ў першы я раз абыйшоў гэты край,
Вечна жыці прыстаўшы, магілай забыты,
Я убачыў тут горад, прыгожы, як рай,
Ўвесь зімовымі косамі сонца абліты,
Быццам срэбнаю рызай акрыты сьнягамі,
З сваёй верай, законам, з сваімі багамі.

Пасярэдзіне князевы хорам стаяў
І вузорамі дзіўнымі, золатам зьзяў.
Званы хваляй нясьліся з высокіх званіц,
Нібы краскі у полі ці бліск зараніц —
Так гарэлі агнямі апраткі людзёў,
Што па вулках да князя йшлі з розных бакоў...

І калі я спытаўся, праходзячы там:
„Ці ўжо многа гадоў гэтым вулкам, сьцянам?"
Адказаў мне адзін з гордым бліскам вачэй:
— „Вечна быў ён, наш горад, за ўсё прыгажэй!"

Час ішоў, ішлі гады,
Я ізноў, прышоў туды.

Ўсё прапала... І хорам, званьніцы, равы,
Ўсё прапала і толькі лугі ды палі
Я убачыў бяз конца, бяз краю ўдалі,
Асыпаныя ласкаю косаў-вагнёў,
Што нас будуць ласкаць яшчэ сотні гадоў...
Лёгкі ветрык да ног пахіляў мне траву,
Вочкі сініх званочкаў глядзелі ўгару,
Там — стакраткі бялелі густою сьцяной,
Гудзеў бас запацістых сярдзітых шмялёў,
Там — сінелі бы неба вясной, васількі,
Ды круціліся над краскамі іх матылькі.

Захацеў я разьведаць, дзе горад стары,
Як даўно у траве ад вячэрняй зары
Толькі краскі шапочуць адны між сабой,
Заварожаны ночнай таемнай цішой.

Сьцеп маўчаў... Толькі ветрык, што твар мне ласкаў,
Адлятаючы ўдаль, ледзьве чутна сказаў:
— „Як даўно тут няма ні людзей, ні дарог,
Як даўно тут палі, — знае вечнасьць, ды бог!“

Час ішоў, ішлі гады,
Я ізноў, прыйшоў туды...

Абярнуліська палі ў цёмны лес векавы,
Дзе галінкі нібы-то скляпеньне сплялі,
Дзе зялёныя мхі заляглі пеляной,
Чырванелі суніцы пад стромкай сасной,
Дзе вяршыны дубоў заглядалі ў блакіт,
Над стаўком пахілялася вецьце ракіт,
Дзе русалкі ўноч косы часалі свае,
Дзе пясьняр-салавей вітаў песьняй мяне.

Я сказаў шэрым птушкам, прысеўшы на мхі,
— „Вы скажэце, даўно тутка бор стаў глух?“
— „Мы ня скажам, з бярозаў сплылі галасы!
Бо за вечнасьць старэйшыя нашы лясы!“

Час ішоў, ішлі гады,
Я ізноў, прышоў туды.

Срэбра хваляў спакойных, бы люстра лягло,
Пакрываючы сосны, і хвойкі, і ўсё.
Каля берагу плесьня вяночкам ішла,
А далей без канца ўдаль, ушыркі, ўбакі,
Шалясьцелі сьцяблы нягустой асакі,
Ды блішчэла, іскрылася ў сонцы вада.

У прыбярэжных заросьлях, у чоўне старым
Рыбака я убачыў з начыньнем сваім.
У пляцёнай кашолцы ўжо білісь аб дно
Шмат сярэбраных рыбак, — дабыча яго.
Падыйшоў я бліжэй і спытаўся: „скажы,
Ці даўно ужо возера бачыш тут ты?“

Аглядзеўся стары, усьмяхнуўся чагось:
— „Яно вечна было, як і сёньнейка ёсь!“

Час ішой, ішлі гады,
Я ізноў, прыйшоў туды.

Замест хваляў ціхіх з пены белай каймой
Я убачыў балоты з іржавай вадой...
Пуста, глуха і нудна... Ні дрэўца ўдалі,
То — балоты, вада, то — пяскі ды пяскі...

Хмарны дзень мне у вочы маркотна глядзеў,
Казкі травам пажоўклым казаці ня сьмеў.
Верас ссушаны, — і той свае краскі хаваў,
Толькі вецер над месцам праклятым стагнаў.

Я прыслухаўся к жаласным стогнам яго
І пачуў ў іх адказ на пытаньне своё:
— „У гэтым краю балоты, вада ды пяскі
Заляглі з утварэньня Прадвечным зямлі!“

Час ішоў, ішлі гады,
Я ізноў прышоў туды.

І спаткаў я на месцы балотаў глухіх
Зноў прыгожае места... Шмат вулак крывых
Там з шырокімі, сьветлымі сетку плялі,
Белых хорамаў цені на хвалі ляглі
Ціхаводнай ракі, што праз места плыла,
Аб ім славу далёка па сьвеце нясла.

Закрычаў я тады: „дзе палі, дзе лясы,
Люстра возера, мгла між пяскоў паласы?
Дзе усё?“ І пачуў я спакойна адказ:
— „Горад наш быў і ёсьць, што пытаешся нас?“

Хай ідуць вякі, гады,
Я ізноў прыду туды...

1922 г.

---

## Увечары.

Не ўцячы ад тугі. (Пазлачоныя сеці
Ясны вечар раскінуў на нівы-лугі).
Затрымаліся... ўвышу ня хочуць ляцеці
Мае думкі крылатыя, дзеці тугі.

Жаль чагосьці, чаго? (Сіняватыя цені
Праз дарогу ляглі, пацямнела ў лагох).
Прабудзіліся казкі душы — лятуценьні,
Штосьці кажуць, і вабяць, і плачуць, — чаго?

Нешта ў сэрцы расьце (по-над срэбрам аблокаў
Паказаў маладзік свой заплаканы твар...)
Яшчэ момант... і рыне з душы сьпеў шырока,
Песьня сонца — натхненьня, жыцьця майго чар.

1925 г.

---

## Завець мяне...

Завець мяне сіняе неба,
Завець мяне вольны прастор,
Дзе месяц між хмарак гуляець,
Дзе вочы празрыстыя зьзяюць
Нясьмелых сярэбраных зор.

Завець мяне сьветлае сонца,
Я ласкам яго аддаюсь.
Хацела-б на сонца глядзець я
Гадзіны, гады, і сталецьці,
Хачу — ды асьлепнуць баюсь.

Ня нам яго, яснае, бачыць,
Ня нам яго ласкі пазнаць:
Магутным арлом яно сьвецiць
І іх толькі ў небе прымецiць,
А нам — дык чаго нам жадаць?

Для нас ўся зямля з яе крыўдай
І сумныя далі палёў,
І песьні жальбы і пакуты,
І жыцьця туга і атрута,
І шчасьця нядоўгае сноў!

1921 г.

---

* * *

Сьветлы дзень дагараець над сумнай зямлёю,
Ліпаў лісьцейкі фарбай гараць залатою,
Сад пажоўклы цямнее, маўчыць.

Каля яблынак цені кладуцца густыя,
Пацямнелі ігрушы й кляны маладыя,
Скора ясны заход дагарыць.

Ад'жываюць нячутна жаданьні
У гэты час, час маўклівы зьмярканьня.

Я хачу на мінуту забыцца аб горы
І глядзець, як у рожавым захаду моры
Косы бледнага сонца сплялісь.

Я памерці хачу вось такою парою,
Хваляй сонца залітая ўся залатою,
Каб і слоў тых ня чуць: „прабудзісь!"

Ад'жываюць нячутна жаданьні
У гэты час, час маўклівы зьмярканьня.

Я хачу ў гэты момант пазнаць сваю долю,
Я хачу ведаць шчасьце, хачу я на волю,
У далі родных, шырокіх палёў!

Я хачу, я хачу... Не хапае мне сілы,
Каб ня думаць аб тым няпрыхільным, нямілым,
Сумным жыцьці апошніх гадоў!

Ад'жываюць нячутна жаданьні
Ў гэты час, час маўклівы зьмярканьня.

Сад маўчыць... Не пяець, як раней, як вясною,
Аб тым шчасьці, жыло што калісьці са мною,
Сад маўклівы і цёмны стаіць.

Клая яблынак цені кладуцца густыя,
Пацямнелі ігрушы й кляны маладыя,
Скора ясны заход дагарыць.

Засыпаюць нячутна жаданьні
Ў гэты час, час маўклівы зьмярканьня.

1921 г.

---

# Люблю я сонца залатое...

Люблю я сонца залатое,
Люблю прыгожаю вясной,
Калі ўсё новае, сьвятое
Сьмяецца радасна са мной.

Люблю нябёс вясьняных ласкі
І пацалункі ясных кос,
Што лашчаць дрэвы бяз указкі,
Што грэюць лісьцейкі бяроз.

Ад'жыў наш сад. Да сонца дрэвы
Галінкі цягнуць, бы ў паўсьне.
Направа сіні цень, а ўлева
Ўсё ўсьмяхаецца вясьне.

Цьвіце чаромха і чарэшня,
Паненкай яблынка стаіць,
К ёй ветрык лашчыцца і песьня:
Сьвятлу, вясьне ўвушшу зьвініць!

Вясна, вясна, дачка лятункаў,
Нясі сьвятло, нясі жыцьцё,
Нясі атруту пацалункаў,
Красуй вясна, кахай усё!

Любі усё, сагрэй каханьнем,
Жыцьцё зямлі, жыцьцё людзей,
Табе адкажа лес пяяньнем,
І людзі стануць весялей.

Цалуй лясы, ідзі гуляці
У палі, ў сады пагодным днём.
Кахай, кахай зямліцу-маці,
Палі яе, палі агнём!

1921 г.

---

# Вясною.

Ізноў вясна... Блакіту зьзяньне,
І сонца ласкі, й фарбы раньня,
І ветру ў вочы пацалункі,
І чар увесь зямлі-пястункі,
Што, прабуджаючысь паволі,
Яшчэ праз сон сьмяецца ў полі,

Сьмяецца ў мглістых пералесках,
У сініх зорачках-пралесках,
Сьмяецца ў месьце нават чорным,
Сьмяецца сьмехам ясным, зорным, —
Усё, усё даўно знаёма,
Ўсё пражыта мною дома...
Але душа дрыжыць, вітае
Вясну, што вечна парывае,
Вясну, што будзіць сны, жаданьні,
Няясны сум — натхненьня раньне,
Што нават тутка, у чужыне,
Прамень ясьнейшы ў сэрца кіне.

1925 г.

---

* * *

Калі у сэрцы сум ціхі ўсплывае
І хочацца маўчаць, —
Здаецца, цішыня душы тады спрыяе,
Лагодны сонца бліск, што ў хмарах дагарае,
Палі, што сьняць...

Калі душа баліць, гарыць і несьвядома
К няведамаму йдзе, —
Тады ціхая ноч паволі, пакрыёма
Зыходзіць на зямлю і зораў міліёны
З сабой вядзе...

Калі душу сьвятло і радасьць агартаюць
І хочацца пяяць, —
Ўзыходзіць сонейка і мглы начныя таюць,
Правідную расу жыта ў палёх страсаюць
І жаўранкі зьвіняць...

Калі-ж ня хочацца ні плакаць, ні маліцца,
Забыць усё, —
Гарачы поўдзень-жар над нівамі кладзецца,
Ў бары і у палёх нішто не зварухнецца,
Сном робіцца жыцьцё.

1925 г.

---

## Шэпты ночы.

Што сумна шэпчуць мне тыя ночы,
Калі на краскі кладуцца росы,
Губляе месяц між цемры косы,
Як быццам срэбрам праліцца хоча.
Калі з душою душа гавора
Аб вечных болях, аб вечных муках,
І пад уплывам бязьмерным гора
Губляе голас у ночных гуках,
Калі здаецца, што зараз думы
Пазнаюць тайну жыцьця і бога
І пойдуць новаю дарогай;
Калі сьмяюцца таполяў шумы,
А сэрца плача і сьмерць прароча...
Што сумна шэпчуць мне тыя ночы?

1922 г.

---

## У сэрцы няма болей песьняў вясьне...

Мінулі дзянёчкі той раньняй вясны,
Калі яшчэ сьніліcь зімовыя сны,
А неба ўжо дыхала ласкай,

І пахла ў паветры нязнанай вясной,
І сонца сьмялялась нябеснай вышой,
І ўсё нам здавалася казкай...

Асталіся толькі жаданьні і сны,
Мінулі дзянёчкі той раньняй вясны.

Сіней стала неба. Пралескі цьвітуць,
У сэрцы і думкі й пытаньні ўстаюць,
Настала вясеньняе сьвята,
Прыгожае сьвята сапраўднай вясны,
Сапраўдныя сьветла-вясеньнія дні,
Ды шчасьце кудысьці узята.

У сэрцы і думкі й пытаньні ўстаюць,
Сіней стала неба... Пралескі цьвітуць.

Ясьней стала сонца. Ўсё верыць, жыве, —
А ў сэрцы няма болей песьняў вясьне.
Нядаўна ў ёй дзіўна парывы расьлі,
Хацелася верыць, кудысьці ісьці,
Настрой той прапаў, абарваўся...

У сэрцы няма болей песьняў вясьне.
Ясьней стала неба, ўсё верыць, жыве...

1921 г.

---

* * *

Недаверчыва ноч падыходзіць,
Штосьці слухае... дух пераводзіць...
Цішыня... цішыня... цішыня...
Лёгкай мглой абвязаліся вулкі,
Гоман места вялікі і гулкі, —
Зьнік з апошнімі косамі дня.

У небе зоры сьмяюцца праз сьлёзы,
І хоць ліпы дрыжаць на марозы,
А сьмяюцца чагось і яны...
Дык няўжо-ж нас жыцьцё так зваліла,
Што ня знойдзем хаценьня і сілы
Усьмяхнуцца праз сьлёзы і мы?..

1922 г.

---

# Восень.

Хай жаўцее, сьціхае сад з кожнай гадзінай,
Сонца ласкі гарачыя ўсюды ня сее,
Хай гарыць, як заход, лісьць дрыжачай асіны,
Хай апошнія кветкі у садзе бялеюць, —

Будзем чакаці вясны!

Хай паўзуць паласою калматыя хмары,
Хай цямнее рака, хай жыцьцё замірае, —
Не агорнуць нас восені горкія мары,
Кожны з нас яшчэ сьветлае шчасьце пазнае, —

Будзем чакаці вясны!

Хай ў душы сны, надзеі на долю канаюць, —
Ўсё мінецца, бы ў летні дзянёк навальніца:
Прыйдзе час — сонца сіняй вышою зазьзяе,
Закрасуець зялёнаю руньню зямліца...

Будзем чакаці вясны!

1921 г.

---

# Увечары.

Смутак няясны зыйшоў на душу...
Сонца заходзіць... Чаго я хачу?
Лёгкія хмары у небе плывуць,
Мглою чырвоны ўбіраючы пуць...

Гукі і гоман нясуцца здалёк,
Быццам хто гора задзержаць ня змог
І закрычаў, застагнаў на ўвесь сьвет...
Не, гэта места шуміць так... і сьлед
Хворыя гукі кладуць на душу.
Цемра надходзіць... чаго я хачу?

Хочацца ласкі, да болі, да мукі,
Хочацца сьціснуць халодныя рукі,
Хочацца кінуць усё і пайсьці,
Думкі разьвеяці хочацца... ці
Зараз заплакаць, каб сьцішыць душу.
Сонца заходзіць... Чаго я хачу?

Можа хачу я таго, што ня знаю,
Можа хачу я далёкага раю?
Не, не зямных, ня тутэйшых уцех,
Радасьцяў жыцьця праз сьлёзы і сьмех...
Можа хачу аднавіці душу?
Цемра надходзіць... Чаго я хачу?

1922 г.



* * *

Я ішла... Нада мной разгараўся вузор
Сьветлых, сумных жамчужынак-зор.
І хоць неба паволі рабілась цямней, —
Зоркі зьзялі ярчэй і ярчэй...

Вось сарвалась адна, паляцела стралой
І загасла, зацягнена мглой...
І хоць яркай яна, гэта зорка, была,
Ня прымеціць, што зьнікла яна...

Я ішла... Прад вачмі рад таполяў цямнеў
І аб нечым таемным шумеў...
І хоць слоў я пачуць, зразумець не магла, —
Іх душа зразумела мая.
Раптам вецер шугнуў угары галіны,
Чорны цень перабег па зямлі.
І хоць вецер той зараз далей паляцеў,
Доўга ліст на таполях дрыжэў.

Я ішла... Ціхі месяц глядзеў з вышыны,
Рассыпаючы ласкі і сны.
І хоць прыкра ў той вечар балела душа,
Я глядзела у неба і шла...
Ціша, неба, і зоры, і сад у паўцьме, —
Усё вітала ласкава мяне.
Й хоць балюча ў той вечар на сэрцы было —
Іх таксама вітала яно...

1921 г

---

## У н а ч ы.

Цішай ночка чаравала,
Цені сінія сплятала
Ад бярозаў, ледзь акрытых
Тонкай сьнежнаю імглой...
Зьнекуль думак пазабытых,
Жыцьцем шэрым скутых, зьбітых,
Нечаканы выплыў рой...

Ад'жылі ўспаміны, зданьні
І нясьмелыя жаданьні,
Захацелася запець...
Захацелася уночы
Ў змрок правідны не глядзець,
Апусьціўшы твар. і вочы,
Ня любіць і не цярпець...

1923 г.

---

# У клясе.

Шумна у клясе, шумна і нудна,
Сьцены шырокія душаць мяне.
Словы вучыцеля ціха, марудна
Льлюцца, іх слухаць ня хочацца мне.
Там, ля дзьвярэй, так вясёла сьмяюцца,
Тыя — чытаюць, другія — крычаць,
Я... я гляджу на праменьні, што йрвуцца
Ў цёмную клясу і ў шыбах гараць.
А з-за вакна мне шапочуць таполі,
Неба сінéе, прыветная даль,
Даль, што ня зьведаць яе нам ніколі,
Сьветла-празрыстая, быццам крышталь.
Дыхае сьвежасьцяй сад пажаўцелы,
Ў салі „Ад веку мы спалі“ пяюць...
Нудна сядзець мне у клясе дзень цэлы,
Як цераз вокны нячутна, нясьмела,
Восені гукі плывуць...

1921 г.

---

# Толькі ўчора...

Толькі ўчора, здаецца, плылі ручаі
І вясеньняе сонца зямлю цалавала,
А сягоньня ўжо нудна жаўцеюць лісты,
А сягоньня ўжо восень бязмала.
Толькі ўчора, здаецца, пралескі цьвілі
І у шоўк прыбіраліся новы бярозы,
А сягоньня ўжо яблыкі з дрэваў зьнялі,
І па шклу плывуць восені сьлёзы.
Толькі ўчора, здаецца, над мглістай ракой
Салавей заліваўся, а мы там сядзелі,
А сягоньня ўжо поўнае сэрца тугой,
Быццам шчасьця ў жыцьці мы ня мелі...

1922 г.

---

# Калыханка.

Ноч рассыпала зораў вагні,
У сінім небе яны патанулі.
Вее сон над прасторам зямлі,
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

З срэбных зораў, з чырвоных агнёў
Упляту я праменны вяночак,
Над галоўкай завешу тваёй,
Люлі, люлі, засьні, мой сыночак.

Будуць зоркі малому сьвяціць,
Будуць сны залатыя дарыць.

Ўсюды ціша і сонны спакой...
Вербы гібкае вецьце пагнулі

Над халоднаю, змрочнай ракой.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Я падслухаю шэпты вярбін,
Я падслухаю шорахі ночак
І зьлію ўсё у хор у вадзін.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Будуць вербы над хлопцам шаптаць,
Будуць ціхія сны насылаць

Нібы плачучы, ў кропельках сьлёз
Прыгажуньні-бярозы паснулі:
Гэта ў пэрлы прыбраў іх мароз.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Тыя пэрлінкі-сьлёзкі зьбяру,
Наніжу з іх пяцёркаў шнурочак
І на шыйку завешу тваю.
Люлі, люлі, засьні, мой сыночак...

Будзе з імі маленькі гуляць,
Ручкай пацеркі-сьлёзы ссыпаць.

Сее ночка чароўныя сны
Над палямі зямелькі-матулі.
Сьніць усё... Сьні-ж аб сонцы і ты...
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі...

1924 г

---

## Адыйдзі-ж ты, гора...

Не заўсёды неба хмарамі пакрыта,
Не заўсёды смуткам сэрцайка спавіта.
Адыйдзі-ж ты, гора, адыйдзі, благое,
Бачыш, там ясьнее небачка ціхое.

Не хачу я плакаць: сьветла ўсё і міла,
Што было — мінула, я усё забыла,
Бо ня вечна неба хмарамі пакрыта,
Як ня вечна смуткам сэрцайка спавіта.

1921 г.

---

* * *

Ночкай сягоньня мне ў самыя вочы
Месяц прыгожы глядзеў і сьмяяўся:
— „Сумна табе?“ ён як быццам пытаўся,
„Праўда, ня сьпіцца у сьветлыя ночы?
Ўстань і зірні на вакно, што адзета
Тонкаю сеткаю з рож серабрыстых,
Пэўна, як глянеш, прыпомніш ты лета,
Красак у садзе вянкі шаўкавістых.
Пэўна, прыпомніш ліпнёвыя ночкі,
Зорак вузор, прыгажэйшы за сонца,
Стромкія, сьпячыя ліпкі, дубочкі,
Сіняе неба бяз краю, бяз конца.
Ўспомніш, як ціха, бывала, ў пакою
Ўсе ужо спалі, а ў вокны глядзела
Мляўкая, душная цемра з імглою.
Ўспомніш, аб чым ты тады лятуцела,
Ўспомніш, як плакаць хацела парою,
Ўспомніш, як сэрца чагосьці шукала,
Ўспомніш, аб чым гэткай ночкай з сабою
Толькі з сабою адной гаравала.
Ўспомніш, як глянеш на срэбныя краскі,
Ўсе свае думкі, надзеі ціхія,
Сумныя, бы ў небе зорачак ласкі,
Шчырыя, бы тыя песьні лясныя.
Ўспомніш, чаго тваё сэрца так хоча,
Ўспомніш усё, што ў жыцьці ты пазнала,
Твары няясныя тых, каго ўночы,
Толькі у снох, у лятунках кахала“.

Ў снох... а ня сьніцца у сьветлыя ночы,
Сон мой сягоньня так рана парваўся,
Бо цераз вокны мне ў самыя вочы
Месяц прыгожы глядзеў і сьмяяўся.

1921 г.

---

# У клясе.

Нудна, нудна у клясе сягоньня,
Неяк цёмна і ціха зусім.
Імжыць дождж, а ў вакно аднатонна
Ясакор лісьцем б'ецца сухім.

Дахі мокрыя зьзяюць, як з сталі,
Нейкім бліскам халодным, цяжкім.
Імжыць дождж, а ў вакно перасталі
Біць лісьцём ясакоры сухім.

Каля дошкі высокай і чорнай
Стаіць Люба *) і піша, маўчыць.
Ціха ўсё, а ў вакно аднатонна
Зноў лісьцё ясакора гучыць.

Неяк дзіўна, так ціха сягоньня,
Ані сьмеху ня чутна, ні слоў.
Ўсе маўчаць, а ў вакно аднатонна
Ясакор перастаў біцца зноў.

Доўга, доўга я ў кнігу глядзела,
Слоў ня бачыла толькі, чаму?
Мо' затое, што ў вокны нясьмела
Ясакор шаптаў казку сваю?

---

*) Люба, адна з школьных таварышак.

Як далёка мне ўсё, што балесьне *)
Адчувала я ночкай і днём!
Мо' затое, што лепшыя песьні
Ясакор мне пяе за вакном?

Ён пяе не аб тым, што мінула,
Старадаўным, далёкім, сівым.
Не, аб будучай долі, я чую —
Ён лісьцём сваім шэпча сухім.

І нясьмелыя, смутныя словы
Непакояць, трывожаць душу,
Ціха ў клясе, бо ціхую мову
Абарвалі таполі сваю.

І ўзноў нудна так, нудна, халодна.
Неяк цёмна і ціха зусім.
Імжыць дождж, а ў вакно аднатонна
Ясакор лісьцем б'ецца сухім.

1921 г

---

## Ночы і думкі.

Ёсьць ночы белыя, ёсьць цёмныя, глухія,
Ёсьць ночы срэбныя і ночы ёсьць ціхія.
Іх — больш за ўсё люблю з маркотным бліскам зор,
Што на шаўку нябёс са срэбра ткуць вузор.
Люблю іх за спакой бязьмерны і чароўны,
Люблю за сьвежасьць, цень, за смутак нявымоўны,
Што на душы ляжыць, калі сяджу адна
І заглядаю ў глыб нябесную бяз дна.

---

*) Балюча.

Ёсьць думкі сьветлыя, ёсьць прыкрыя, благія,
Ёсьць думкі сумныя і думкі ёсьць ціхія.
Іх — больш за ўсё люблю з маною той надзей,
З усім, што дорага зямной душы людзей.
Люблю за цішу іх, глыбокую, нямую,
За тое, што тады і сэрца не гаруе,
За тое, што тады душа гарыць, расьце,
За тое, што жыву ня так, як людзі ўсе.

І ночы срэбныя, чуць сінія, сівыя,
І думкі сумныя, глыбокія, ціхія, —
Ў маёй душы плятуць, маўляў, адзін вузор,
Як той, што ўвышы ткуць сьняжынкі сьветлых зор.

1921 г.

---



Я люблю песьні ветра у полі,
І вясёлых сьняжынак гульню,
Калі ў хаце ня хочацца болей
Мучыць думкамі душу сваю.

Я люблю выйсьці ў час, калі хмары
Дагараць, калі захад загас,
Калі цені агорнуць абшары,
І зьмярканьня зімовага час...

Ў вёсцы ціха — ўсё сьнегам адзета,
Ў белай рызе рабіны стаяць.
Ў вокнах зоркі чырвоныя сьветла,
Тут і там, загарэўшысь, дрыжаць.

Засыпаючы сад каля школкі,
То барджджэй, то паціху ізноў
Пылам сыплюцца лёгкім іголкі
З неабсяжных нябесных палёў.

Густа, густа лятуць яны, йрвуцца,
Мчацца з ветрам у белы прастор,
То — рассыплюцца, ў вольхах саб'юцца,
То — хаваюць агоньчыкі зор...

Усё зьмяшалася ў полі, здаецца,
Віхор круціцца, б'ецца, пяе.
Мо' змагаецца з кім, мо' сьмяецца?
Мо' хавае надзеі свае?

Лес, дзе хвойкі, сасонка ў сасонку
У ясны дзень выраcталі сьцяной, —
Мглы агорнуты белай палёнкай,
Мглы, што неба зьмяшала з зямлёй.

І ўсю ноч у бялеючым полі
Карагоды сьняжынкі вядуць,
То баюкаюць песьняй аб долі,
То хаўтурныя гымны пяюць.

1921 г.

---

# Памяці Ядвігіна Ш.

Ціха з шэрых нябес белы падае сьнег,
А учора сьмяялась вясна,
Сонца першыя косы так сьветлы былі,
Усьмяхаючысь, хмаркі ў блакіце плылі,
І ласкаў, і звадзіў гэты сьмех.

Вецер, — той нават дыхаў у твары вясной,
Ужо чарнела дзе-нé-дзе зямля
Усюды з грукатам срэбным плылі ручаі,
Ты памёр, ня прыждаўшы чароўнай вясны,
Сьпі-жа з чыстай, спакойнай душою.

Тут, на шумнай зямлі ты і жыў, і цярпеў,
Ты народ свой гаротны кахаў,
Ты да мэты ішоў бяз пуці, без дарог,
Працаваў, не шкадуючы сіл, пакуль мог,
Ня прыждаўшы вясны, дагарэў.

Дагарэў... але сьветлая памяць твая
Не разьвеецца лёгка, як дым.
Не забудуцца простыя словы твае,
І, як сына найлепшага, прыйме цябе
Беларусі пакутнай зямля.

1922 г.

---

## Зачарованы кут.

Вечар... Сонца занікае,
Кроў зары бляднее, тае,
Тае ў небе, на зямлі.

Дрэвы-мары у гушчары
Ў мглы зьліліся сіняй хмары,
Анямелі ў цішыні.

Чорным робіцца балота,
Ишчэ чарней — лісты чарота,
Толькі зорныя вагні

Загараюцца ў бяздоньні
І ў балотнай немай тоні
Адбіваюцца яны.

Зьзяюць, ломяцца адбіткі,
Калі вецер хваляў зьвіткі
Патрывожа, дзесь памкне.

І чарот тады заплача,
Быццам жальбу, няінача,
Ў цемру лесную нясе...

Занямелі сосны бору,
Ня стрыхнуць дрымоту — змору,
Што к ім з нетраў прыпаўзла,

Й бор хваёвы — ценяў сховы,
Й час балотаў нездаровы,
Ахінула, абняла...

Дрэмле соннае балота...
Чуць кладзецца пазалота
На зацьвіўшую ваду, —

Гэта месяц вынікае
З-за кароны цёмнай гая,
Зор вітае грамаду...

Там, дзе зарасьлі асокі
Заплятаюць мур высокі, —
Чорнай плямай лёг ставок.

А над ставам млын струхлелы,
Што у змрок схаваўся цэлы,
Цёмнай мараю залёг.

Дах над хвалямі схіліўся,
Дзе, падгніўшы, абваліўся,
Дзе — парос травой і мхом...

І даўно заснула кола,
Ня кідае пыл наўкола,
Пыл вясёлкавы стаўпом.

Толькі хваляў пераліўы
Мочаць мох зялёна-сівы,
Быццам хочуць абудзіць,

Ды уночы ходзяць цені,
Нехта іскры сыпле ў сені,
Гудам жудасным гудзіць...

Кажуць людзі, што уранкі
Там купаюцца вадзянкі,
Рвуць малочную імглу,

І ў прарваныя ваконцы
Рассыпаюць косы сонца
На туманную ваду...

Ды ни годзе, на заходзе
Там русалкі ў карагодзе
З лесу цягнуць да вады,

І калышуцца, ўсе ў белі,
На калінаў гутарэлі,
То тудою, то сюды.

Вецер косы іх кідае,
Цела белае ласкае
Лісьце кволае вярбін...

Сьмех нясецца русалчыны
Ўздоўж балотнае нізіны,
Да лясных, глухіх глыбінь...

А калі, як ночы вока,
Месяц выгляне высока
І халодны наплыве, —

Вось тады там толькі чараў
Ці з гушчараў, ці з імшараў,
Моц нямая ад'жыве!

Кажаны шасьцяць крыламі
Пад альховымі вярхамі,
З дзьвераў млыну у вакно,

Совы плачам беспатольным
Страх дзікі і мімавольны,
Сеюць, веюць за адно...

Ночы служкі — там начніцы
На'т зьлятаюцца дзівіцца
Летняй ночкі хараству,

Думкі грэшныя і злыя,
Зводы, чары, злыдні тыя,
Пахаваўшы ў цемру-мглу.

З загадковым ціхім сьмехам,
Што сон даляў будзіць рэхам,
Кола зьменнае вядуць.

То прыстануць, то памкнуцца,
Перастануць, зноў заўюцца,
Рвуцца, марамі лятуць.

З ценяў ночы яны тканы
І халодны, серабраны
Месяц сьвеціцца з вачэй...

За ціхія ляпуценьні —
Палахлівых дум стварэньні,
Яны, мглістыя, лягчэй.

Там а поўначы глыбокай,
Ўвесь аблутаны асокай,
Вадзянік са дна ўстае.

І пры месяца праменьнях
Персыпае *) жвір у жменях,
І рагоча, і пяе...

Там сам страшны сьлівень з гаці
Прыпаўзае паляжаці
Ў белым месяца сьвятле,

Спорнік зьмеям праменістым
Там кідае сьлед агністы,
Скарбы ў млын стары нясе...

Там лясун, як заэлуецца,
— „Го-го-го!“ грыміць-дзярэцца,
Сосны ломячы плячом,

Там, як месяц выйдзе ледзьве,—
Ўжо шукаюць зельля ведзьмы
На атруту — чар людзём.

*) Перасыпае.

І мармочуць заклінаньні
Хрыпла-сіпла пры зьбіраньні,
Абтрасаючы расу...

Там тапленіца галосіць,
Галаву з вады падносіць,
Чэша мокрую касу...

Ўсё-ж калі пявун далёка
Прапяе ў цішы глыбокай,
Тры разы як прапяе, —

Гінуць чары, гінуць мары
Й туману кладуцца хмары
Над балотам, па рацэ...

Ціха... глуха... Толькі хвалі
Ўдаль плывуць, як адплывалі,
Адбіваюць сьвечкі зор.

Ды чарот жальліва плача,
Быццам жальбу, няінача,
У ціхі заносіць бор...

1925 г.

---

# Балотніца.

Хто там так плача, хто прычытае,
Мучыць душу уначы пачынае?
Стогнуць сасонкі, стогнуць асіны,
Рэха нясецца лясамі лагчыны.
Лес адгукаецца стогнам жальлівым,
Песьняў адвечных глухім пералівам,
Хваляю гукі нясуцца, сплываюць,
Дзесьці за цёмным балотам зьнікаюць.

Хто-ж там так плача, хто прычытае,
Мучыць душу уначы пачынае?

---

Высака месяц у небе халодным.
Ў доўгім балоце за полем бясплодным,
Ў гушчы чарота, як срэбра, вадзіца
Сонна у месячных косах іскрыцца.
Ўсе берагі парасьлі купіною,
Стромкім чаротам, лазой, асакою,
Белыя краскі лілейкі-княгіні
Пышна ў вадзе распусьціліся сіняй.
Жутла зіяюць балота ваконцы,
Плесьня, вада, травы ўшыркі бясконца,
Ўдоўжкі ізноў — то чарот палахлівы,
Травы балотаў, то — хваляў адлівы.

Жудасна ўночы над сонным балотам
Туліцца ночка, шапоча з чаротам,
Лашчыцца к хвалям малочным тумана,
Горка ўздыхае, ці позна, ці рана...

Часам, упоўнач, калі асабліва
Месяца яркі ў вадзе пераліві, —
З ціны балотніца ціха выходзіць,
Песьню, жальбу, прычытаньне заводзіць.

Сядзець у чашачку белай лілейкі,
Спусьціць галоўку і тонам жалейкі
Сумна-маркотна зальлецца, зальлецца,
Рэха па лесе маўклівым нясецца.
Вочы балотніцы бліскам таёмным
Вабяць к балотным ваконцам паўцёмным,
Нібы зялёныя зоры іскрацца,
Глянеш, — і сілы няма адарвацца.
Косы зялёнаю хваляю ўюцца,
Ў комлях чарота, заблутаўшысь, рвуцца,
Шыйкі бялейшай ня бачылі людзі,
Белае цела, тачоныя грудзі...
Жабіны ногі ў лілейцы схавала,
Грэшныя думкі ў душы пахавала,
Плача балотніцца, плача - сьмяецца,
Сэрцайка быццам канаець, ірвецца.
Толькі-ж ня можна ёй верыць, бяздушнай,—
Ў ціну прывабіць і ночкаю душнай,
З ціхім пасьмехам за рукі ухопіць,
Гледзячы ў вочы, задушыць, утопіць...

Хто-ж там так плача, хто прычытае,
Мучыць душу уначы пачынае?
Гэта балотніца плача - сьмяецца,
Рэха па лесе маўклівым нясецца.

— „Ой, цяжкая мая доля горкая,
Загубілі мяне вочы ясныя,
Вочы ясныя, косы доўгія,
Сэрца вольнае ды гарачае.
Загубіла я сваю моладасьць,
Веру страціла, сілы страціла,
А адна была з сваім сэрцайкам,
З маладой душой, што хацела жыць.
Не сьпякло мяне ясна сонейка,
Не зламаў віхор у васеньню ноч, —
Загубіў мяне чарнабрывы мой,

Жартаваў, гуляў з маладой душой,
Жартаваў, гуляў, а пасьля пайшоў,
А я плакала, залівалася!
„Ды куды-ж пайду, куды дзенуся,
Да каго цяпер прыхілюся я?
Ці-ж цябе ня любіла, ня лашчыла,
Пацалункаў табе шкадавала мо'?
А дубочак ты мой зялёненькі,
Ня кідай мяне, пашкадуй мяне!'

— „Ой, бяда мая, бяда горкая,
А і выбраўся ён у далёкі край,
А ў які той край — і ня ведаю,
У далёкую, у староначку.
Ня было як жыць, насьмяхаліся,
Нада мною ўсе надругаліся.
— „Не ў царкве з папом паніхіда йшла,—
Матка плакала над дачушкаю,
Вецер выў, стагнаў у старым бары,
Дробны дождж ішоў над сырой зямлёй.
І знайшла сабе сьмерць вядомую:
Ночкай кінулася у возера...
А і цяжка-ж мне, маладзенькай, тут,
Няма радасьці сэрцу беднаму,
Нібы птушачка, ўсё трапечацца,
Аб зямным жыцьці вядзе гутарку.
Падыйдзі сюды, абыймі мяне,
Прытулі мяне да грудзей сваіх,
Цалаваць цябе буду горача,
Да самой зары, зары ранічнай!"

Плача балотніца, плача - сьмяецца,
Гора таму, хто на плач адгукнецца:
Сьмерць сваю знойдзе ў балоце заглохшым,
Дробным куп'ём асакою паросшым.
Цэлую ноч над даверчывым рвацца
Будзе балотніца й плакаць - сьмяяцца.

Кажуць так людзі, а хто яго знае,
Хто у балотах лілейкі зрывае,
Хто з іх сьплятае прыгожа вяночкі
Ў душныя, мляўкія, летнія ночкі?
Хто там так плача, хто прычытае,
Мучыць душу уначы пачынае?
Стогнуць сасонкі, стогнуць асіны,
Рэха нясецца лясамі нізіны.
Лес адгукаецца шумам жальлівым,
Песьняў адвечных глухім пералівам,
Хваляю гукі нясуцца, сплываюць,
Дзесьці за цёмным балотам зьнікаюць...

Кажуць так людзі, а хто яго знае,
Хто там адчай у сьлязах вылівае...

1921 г.

# Плач старога лясуна.

Гулка грымелі ў бары тапары,
Гулка грымелі з зары да зары.
З стогнам пакутным валілісь сасонкі,
Стан распраўлючы стромкі і тонкі.
Ў частым гушчары шырокай лагчыны
Моўчкі, жахліва дрыжэлі асіны.
Бор вырубалі... Ад краю да краю
Рэха няслося... З нядолі, адчаю
Смагнулі травы удоўж каляіны
Там, дзе начніцам калісьці тканіны
Месяц ды белы туман разам ткалі,
Там, дзе імглы калыхаліся хвалі.
Бор вырубалі... Нястройна, балюча
Гул нёсься ўдаль цераз сьметніку кучы,
Нёсься праз сьвежыя пні залатыя,
Нёсься у нетры дзікія, густыя.



Плакаў чарот над іржавым балотам,
Кракаў крумкач чорнакрылы пралётам,
Шэрыя совы, што ночкай лятал,
Плакалі й тыя, што бор вырубалі...
Не, то стагналі там, пэўне, ня совы —
Плач той быў дзікі, галосны і новы, —
Плакаў, прысеўшы на пні і галіны,
Стары лясун у начныя часіны.
Плакаў лясун, абціраючы вочы.
Сьлёзы, як зоры ў васеньнія ночы,
Часта ірвалісь, па шчоках спаўзалі,
Ў зморшчынах чыстай расою зіялі.
Хмарылісь горка калматыя бровы,
Вусны крывіліся й новыя словы
Рвалісь з магутных грудзёў лясуновых,
Рэхам кацілісь да пушчаў цярновых.

* * *

Плакаў лясун, што лясы высякалі,
Шэпты начы новы плач выгукалі,
Доўга хадзіў ён, хадзіў неспакойны
Там, дзе учора спаў бор яго стройны.
Вецер, разьвеяўшы космы сівыя,
Аж па-над хвоі кідаў іх густыя,
Блутаў у рэдкіх сасон верхавінах,
Блутаў, ірваў, зачапіўшы ў галінах,
Ў доўгай кашулі з імхоў сіваватых,
Ў моркрых вялікіх лапцёх кучмаватых,
Падперазаўшыся гнуткай лазою,
Брыў ён заснуўшаю сьцежкай лясною.
Брыў і трашчэў па сукох і па трэсках,
Брыў і ламаўся па тых пералесках,
Дзе яшчэ сосны шумелі, зьвінелі,
Ў неба глядзеці далёкае сьмелі.

Ходзіць лясун, уздыхае пакутна,
Ходзіць па лесе то — ціха, нячутна,
То — зазлуецца, ламаець галіны,
Гнець пад нагамі бярозкі, асіны.
Трэск ідзе борам... Пужлівыя совы
Ў дуплях хаваюць сьляпыя галовы,
Шэрыя зайцы лятуць і касяцца:
Дзе-бы ім лепей, нясьмелым, схавацца?
Людзі, пачуўшы з-пад бору раскаты,
Шэпчучы пацеры, мкнуцца да хаты.
Вецер у тон лясуну запявае,
Першае жоўтае лісьце зрывае,
Круціць у ночным вільготным паветры,
Круціць, заносіць далёка у нетры.
Доўга лясун гэткай ночкай злуецца,
Доўга равець ён, пакуль ня уймецца.

1921 г.

# Вясельле.

Ці ня вецер над грэбляю вые,
Ці мо' плачуць вярбіны старыя?
Сьмела ночка з туману тканіны
Працягнула ад лесу да млына.
Месяц белы у хмарах схаваўся,
Зорны шлях пабялеў і парваўся.
Цені густа пакладісь благія
На ваду і на пушчы глухія.

Ці-ж ня вецер над грэбляю вые,
Ці мо' плачуць вярбіны старыя?

Не, спраўляе вясельле ля млына
Вадзяны дзед з заліўцай-дзяўчынай.

Ледзьве йшла маладая, нясьмела,
Жутла паглядам згасшым глядзела,
Вусны сінія сонна сьціскала,
Рукі белыя слаба ламала.

Па плячох няжывых косы-зьмеі
Рассыпаліся й краскі-лілеі;
Ў іх папаўшы, бялелі халодна
І на грудзі спадалі выгодна.

Ціна стан перахільны хавала,
Цела дробна дрыжэла-ўздыхала.
Ледзьве йшла маладая, хісталась,
К маладому бязволіна схілялась.

Горда йшоў малады, усьмяхаўся,
Голас грубы ў паветры ірваўся,
Сам вялікі, абросшы, гарбаты,
З барадою зялёнай, калматай,

Ракі ў бараду цэпка ўпіліся,
З сьлізкай тваньню зялёнай зьліліся,
Цела рыбяй блішчэла лускою,
Пахла востра балотам, ракою.
Жутла зьзялі сталёвыя вочы,
Як туман у васеньнія ночы,
Валасы поўсівыя ўзьляталі,
Мокрай цінаю карк абляплялі...

Не сваты маладых запівалі,
Як прадзеды й дзяды пачыналі, —
Заручыла іх горкае гора,
Заручыла надоўга і скора.

Не баяркі нявесту ўбіралі,
Яе русу касу расплятал, —
Расплятал касу срэбны рыбкі,
Расплятал умела і шыбка.

Не браточкі уплёты хавалі, —
Акунькі яркі йстушкі прыбралі,
Не пялі вясельныя песьні, —
Вецер плакаў над млынам балесьне.

Не нявеста радзінку дарыла, —
Ноч вясельле імглою акрыла,
Не маліліcь зусім маладыя, —
Толькі вербы шапталі густыя...

Іх ня родныя татка і мацi
Бласлаўлялі вясельле гуляці, —
Пажагналі іх месяц бяссонны
Ды бліскучых зор шлях аднатонны.

Не ў царкве маладых павянчалі, —
На дне рэчкі-балота шлюб далі
Прад налоем ня сьвечачкі зьзялі, —
Над балотам агні прабягалі.

Не аўсом маладых абсыпалі, —
Кроплі дробнага дожджу сплывалі.
Ня гулялі вясельля вясёла. —
Ноч адна уздыхала наўкола.
Ня гудзелі іскрыпкі, цымбалы, —
Вецер плакаўся злосны, нясталы
Не скакалі хлапцы і дзяўчаты, —
Вадзянік адзін тупаў калматы.
Ён і тупаў, і дзіка сьмяяўся,
Да сваей маладой пахіляўся.
А яна сонна рукі ламіла,
Дзіўна-смутна шаптала, прасіла:

— „Зашумі, лес, зялёна дуброўка,
Ой, пралейцеся, дожджы густыя,
Уздымецеся, буйныя ветры,
Залятайце да роднага таткі,
Залятайце да роднай матулі.
Уставай, уставай, родны татка,
Вынасі абраз, родная маці,
Пажагнайце дачушкі вясельле,
Ой, дзіўное вясельле гуляці!

Ня шуміць лес, зялёна дуброўка,
Ня ідзець над зямлёй дождж халодны,
Ня ўздымаюцца буйныя ветры,
Не ўстаюць, ня ідуць татка з мамкай
Пажагнаці дачку на вясельле.
Ой, сасонка мая ты густая,
Ой, галоўка мая неўдалая!
І бяз татачкі нас пажагналі,
І бяз маткі вясельле згулялі:
Была маткаю мне цёмна ночка,
Родным татачкам быў ясны месяц,
Выпраўлялі мяне браты-ветры,
Прычыталі па мне сёстры-зоры.
Ой, галосна-ж званы нам зьвінелі,
Ой, і ярка-ж нам сьвечы гарэлі,

Ой, прыгожа-ж папы нам сьпявалі,
Як у цэркве мы сёньня шлюб бралі!
Толькі я, маладая, заснула,
Ані звонаў, ні сьпеваў ня чула"...

Так спраўлялі вясельле ля млына —
Вадзяны дзед з заліўцай-дзяўчынай.
А ім ночка з туману тканіну
Працягнула ад лесу да млыну.
Месяц белы у хмарах схаваўся,
Зорны шлях пабялеў і парваўся,
Цені горнай акрылі імглою
Бор пануры над змрочнай ракою...

1921 г.

---

# Зорка.

(*Сюжэт узяты з апавяданьня А. Амфітеатрова „Лятавіца“*).

Заплятаюць зоры белыя вузоры
У бяздоньні неба... Ціша... цішыня...
Поўныя пакуты стромкіх хвояў хоры
Гымн сьпяваюць ночы... Ціша... цішыня...

Ня шумяць галіны маладой асіны
Аб адвечных страхах, векавой жудзе,
Толькі у лагчыне, дзе туман лёг сіні,
Часам ночны вецер глуха загудзе.

Ўслухайся у словы ветравае мовы,
Ўслухайся у шэпты хвояў маладых:
Многа казкаў дзіўных, песьняў пераліўных
Чуткаю душою зразумеў-бы ў іх...

---

— Тут былі калісьці, — зварухнуўшы лісьці,
Пачынае вецер, — не лясы — палі.
Над ракою дзесьці, год таму ўжо дзьвесьце,
Між высокіх жытаў вёскі заляглі.

Там, у нізкай хатцы жыў хлапец пры матцы,
Сам прыгожы, сьветлы — нібы дзень вясной,
А пяяў так звонка, што аж чула сонка,
Голас меў жаўронка, птушкі палявой.

Чуць сьвітае ранкам, а у полі Янка
Ўжо ідзе за плугам і папар арэ...
Паліць сонца звышы, ўсё замрэ — ня дыша,
А яму і люба, толькі йдзе, пяе.

Ўвечары да хаты цягнецца араты
Адпачыць на сене ці пад кажухом,
А Янук гуляе, дзеўкі забаўляе,
Песьні ім сьпявае недзе за сялом.

Посьле, ноччу, ў поле пад лісьцё таполі
Прывядзе ён коні, сядзе на зямлі,
Коняў даглядае, месячык вітае,
Дзівіцца і лічыць зорныя вагні...

Часта ў божым моры ірваліся зоры,
Як зьбліжалась восень, маці горкіх мар.
Ўніз яны зьляталі, гасьлі, прападалі
У бяздоньнях неба між калматых хмар.

Кажуць, што ня зоркі, анелаў пацёркі,
Ў восенную ночку сыплюцца дажджом:
Гэта лятавіцы, злыя чараўніцы
На зямлю зьлятаюць, ой, не за дабром!

Зоры ёсьць такія — ясныя, ціхія...
Душы праклятыя там жывуць, чуваць...
І за крыўду гэту да сканчэньня сьвету
Пакляліся мсьціцца — людцаў чараваць.

Спрыкрыцца праклятай жыці незанятай,
Засумуе часам — зоркаю зьляціць.
Скінецца дзяўчынай і брыдзе пуцінай
Грэх па людзях сеяць, хлопчукоў звадзіць.

———

Варажыла ночка, жаляў, чараў дочка,
Агарнуўшы мглою сіняю прастор.
У душу прасіўся, сьпевам дзіўным ліўся
Смутных ночных гукаў ціхі перабор...

Лёг хлапец у полі пад лісьцём таполі
І цягучай песьняй скалыхнуў цішу.
Выліваў маркоты, сумы адзіноты,
Разьядаў сьлязамі горкімі душу...

У нябесным полі ярка, штораз болей
Зіхацелі зораў белыя вагні,
Разрываліся зоры, гінулі ў прасторы,
Гасьлі над зямлёю, гасьлі на зямлі.

Вось агнём зарніцы зорка-чараўніца
У вачох бліснула і зьляцела ўніз.
Толькі сьлед бліскучы, агнявы, мінучы
На мамэнт праз неба ніткаю павіс.

Глянуў хлопец — дзіва: пасьвятлела ніва,
Зорка над зямлёю, над лісьцём ляціць.
Глянуў і падняўся, ледзь перажагнаўся,
А ўжо тая зорка перад ім стаіць.

З цемры няпрыветнай твар дзяўчыны сьветлай
Выплывае моўчкі і глядзіць, глядзіць,
Апусьціўшы вочы, мо' спытацца хоча:
„Што сумуеш, хлопча, што табе баліць?"

Вочы у дзяўчыны — возера глыбіні,
Ад павек кладзецца сіняваты цень.
Валасы дзяўчыны — зорныя тканіны,
Серабрыста-белы месяца прамень.

Лёгкае убраньне з мглы правіднай раньня
Абвілося хмаркай каля белых ног...
Ўся яна ірдзіцца, квола серабрыцца,
Як адна з тых зораў, што раскідаў бог.

— „Хто ты?"—„Я дзяўчына з хмарнае лагчыны",
Зазьвінела ціха, бы званкі ў траве,
— „А пачула песьні, вабяць так балесьне. —
І прыйшла у поле... слухаць... да цябе.

Пей гучней, я сяду"... Слухае загаду,
Засьпяваў, заліўся, сэрцайка дрыжыць...
А дзяўчына-зорка ўсё сьмяецца горка
І вачмі-бяздоньнем жудасна блішчыць...

Скончыў Янка граньне: „Дзеўчынка-каханьне,
Для цябе пайду я на мучэньні, зьдзек.
Будзеш мая жонка — аджыве старонка,
Рассьвятлее доля: палюбіў на век!

Пэўна, знаеш чары, калі таюць хмары,
Калі гінуць цені ад тваіх вачэй.
Бяз цябе мадзеці не магу на сьвеце,
Будзь маёю, любка, падыйдзі бліжэй“.

Не жалейка плача, стогне небарача,
Не, ня ночны вецер жаласна гудзе —
А з грудзей дзявочых сьпеў ліецца ўночы,
Кроіць сэрца болем, сьлёзы гора льле...

Пабялелі сеці месяца на вецьці,
Паляцелі зоры з чорных божых рыз,
Тонкія таполі застагналі з болі,
Апусьцілі вецьце распачліва ўніз.

А душа канае... Але тут зьмяняе
Сваю песьню дзеўча на вясёлы тон...
Расплыліся хмаркі, выплыў месяц шпаркі,
Зазіялі зоры белым жамчугом.

Белыя бярозы, што гублялі сьлёзы,
Загудзелі сьветла, радасна, як сьмех.
Прабудзілісь кветкі, ад'жылі палеткі,
Усё пайшло круціцца, як узімку сьнег.

Скача месяц белы, скачуць зоркі сьмела,
І дзяўчына скача з Янкаю, пяе...
Валасы сплятае, нібы птушка тая,
Усё лягчэй нясецца, ўсё вышэй плыве.

Ад зямлі паволі сілай дзіўнай волі
Адлятае... ўецца сінім матылём,
Над густой пшаніцай зьзяе зараніцай,
А хлапец трымае, з ёю мкнецца й ён.

— „Ой, пусьці, хлапчына“, просіцца дзяўчына,
„Не сваёю воляй я ляту да зор!“
Але дарма б'ецца, яго страшыць, рвецца:
Як каршун з галубкай праляцелі бор.

— „Ой, пусьці!“ — „Загіну, а цябе, дзяўчына,
Ня пушчу, хай будзе, што захоча бог“.
Ды запелі пеўні дзесь у вёсцы пэўне,
Ірванулась любка, — затрымаць ня мог...

Шуганула ў неба, залатыя глебы,
Задрыжэла зоркай — чыстаю расой.
І дагэтуль зьзяе, ночкамі гуляе,
Аж пакуль ня ўбачыць сонца над сабой.

А хлапец рвануўся — ў небе апынуўся.
За плячамі крыльцы шэрыя ўзрасьлі.
Жаўранкам, што золкам будзіць нівы, долкі,
Жаўранкам узьняўся ўвышу ад зямлі.

Сьпяць яшчэ пракосы, дрэмлюць ніў палосы,
А малы жаўронак ўжо ляціць, ляціць:
„Цірлі, цір, вярніся, цірлі, ад'завіся!“
Да зары вячэрняй жаласна зьвініць.

Толькі, як у горы, сном нялёгкім зморы
Ён засьне у ценю жытніх каласоў, —
Выплывае зорка і сьмяецца горка,
І хлапца-жаўронка зводзіць, злая, зноў:

Бо як сьпіць — сьмяецца, але чуць прачнецца,
З песьняю памкнецца ў неба, да яе, —
Ў зораў карагоду, ў золаце усходу,
Ў чырвані аблокаў зорка прападзе...

1924 г.

# Шчасьце.

(*Вершаванае апавяданьне*).

Хтосьці па лесе ідзе і сьпявае,
Хустка між соснаў высокіх бялее,
Песьня зьвініць, як згубіўшы надзею,
Сонцу і небу укор пасылае...

Сонца усходзіць... Зьбялеўшыя зоры
Тонуць у рожавым полымі-моры,
Ў чырвань малююцца соснаў вяршыны,
Рожавай робіцца мгла над лагчынай.
Ў лесе паўцёмна. Ільлёвыя змрокі
Ў гушчы хаваюцца соснаў высокіх.
Бор, прачынаючысь, ціха шапоча
Сны-маячэньні канаючай ночы.
Хтосьці па лесе ідзе і сьпявае,
Небу і сонцу жальбу пасылае:
-- „Хто ў нас з заранкай на поле выходзіць,
Сілы за працай цяжкой пераводзіць?
Эх, сірацінка так раніцай ходзіць,
Буйныя сьлёзкі на постаць раняе,
Горкую долю сваю праклінае!
Хто ў нас палуднем на ніўцы хінецца,
Дробнымі сьлёзкамі плача-ільлецца?
Эх, сірацінка так з працаю б'ецца,
Белаю ручкаю пот уцірае,
Сьпіну да чорнай зямлі нагінае,
Горкую долю сваю праклінае..."
Цяжка на сьвеце, ой цяжка, бяздольнай,
Хочацца волі шчасьлівай, раздольнай,
Хочацца ласкі, а людзі сьмяюцца,
Людзі чужыя ваўкамі здаюцца.

---

Матка Галіны ў рацэ утапілася,
Бацькі ня ведала нават дзяўчына...
Так і расла, бы ў лагчыне каліна,
Доля інакшая Гальцы ня сьнілася.
Людзі ўзялі сірату, ўзгадавалі,
Людзі кармілі... А болей што... годзе..
Болей дасьць бог, кажуць гэта ў народзе.
Дзеці дражнілі... Пасьля перасталі.
Думнай дзяўчынай Галіна ўзрастала,
Год за гадом прыгажэй расьцвітала:
Цёмныя косы, ружовыя шчочкі,
Вочы-пралескі ці два васілёчкі,
Белыя, гладкія рукі і плечкі,
Голас, бы плюскат крынічанькі, рэчкі.
Толькі маркотна жылося дзяўчыне,
Плакаць штоноч выпадала Галіне:
Воля, вядома, сірочая воля,
Мачыхай злою была яе доля.
Моўчанькі Галя ўсе крыўды цярпела,
Жаліцца на'т у душы ня умела...
Толькі любіла уночы сядзеці,
У цёмнае неба з тугою глядзеці,
Зоркі лілі у душу маладую
Нейкую цішу і згоду сьвятую...
Год за гадом хвойкай вырасла Галя..
Вербнай нядзелькай семнаццаць мінула,
Праца цяжкая яе не сагнула:
Стала вышэйшаю, — косы — як хваля..
Сьлёзы вачэй-васількоў не згасілі,
Шчокаў ружовых ня зьмялі, ня змылі,
Крыўды надзеі ў людзей не зламалі,
Злога ня ведала сэрцайка Галі...

---

Хтосьці па лесе ідзе і сьпявае —
Гэта Галінка чаромху ламае.
У лесе на краю зялёнай паляны,
Сьветлай расой, як сьлязамі прыбранай.

Сонца з-за цёмнага бору ірвецца,
Скора імгла над зямлёй распаўзецца,
Цень, між камлёў пасплятаны, вузорны,
Сіні, халодны, мясцамі йшчэ чорны,
Зьнікне у золаце раньняга сонца,
Ў ласках вясеньніх, гарачых бясконца...
Ходзіць дзяўчына, чаромху зрывае,
Песьню маркотную ціха сьпявае,
Ходзіць і ходзіць... а дрэвы дарогу
Моўчкі ёй кажуць да гушчы ў разлогу,
Кажуць дарогу да тоні-балота,
Тоні, дзе сонца блішчыць пазалота
Ў плямах рудое, іржавай вадзіцы,
Тоні, аер дзе зялёны хіліцца,
Качкі ўюць гнезды, маленькіх выводзяць,
Дзівы дзе лес гулам жудасным родзіць.
Там, над балотам, як чула Галіна,
Рэшткі згніваюць старуткага млына,
Мхом зарастаюць, а ў ім, між асокі
Век дажывае млынар адзінокі.
Можа зайсьці варажыці? Ён мае
Сілу дзіўную і моц нялюдзкую,
Чортаву, кажуць... вужакаў гадуе,
Лечыць, варожыць, урокі зьнімае.
Сэрцайка Галі калоціцца, б'ецца,
Так-бы дамоў і пабегла, здаецца.
Ціха ідзе па імховай пасьцелі,
Твар пахаваўшы ў чаромхавай белі.
Холад іголкамі колець у грудзі,
Вось і балота... Хай будзе, што будзе...

---

Госьцю стары чараўніча вітае,
З дзіўнай усьмешкай яе аглядае.
Белы, высокі, калматыя бровы,
Ссушаны твар, пажаўцеўшы, васковы,
Белая вопратка, пояс сатканы
З ніцяў грубых, кутасамі прыбраны,

Лапці з ліповага лыка, аборы...
Самае дзіўнае — вочы, як зоры,
Цемныя, цёмныя — неба уночы.
Ўсё пахаваюць, што знае, што хоча,
Добрае, злое, насьмешку ці ласку,
Долю праклятую, долю, як казку,
Нейкі агонь у тым поглядзе дзіўным.
Голасам ціхім, глухім, зауныўным
Госьцю стары чараўніча вітае,
Што яна, красная, хоча, пытае.
Шэптам штось кажа старому Галіна.
Шчокі зьбялелі, бы сьнег, палатніна,
Хоча аб долі сваёй запытацца,
З будучым часам таемным спазнацца.
Мо' ужо любіць дзяўчына кагосьці,
Мо' ўжо заняў яе сэрцайка хтосьці?
Не, не аб тым, пэўна, кажа Галінка,
К дзеду схіліўшысь, бы ў полі калінка.
Любіць... ня любіць... а трудна прызнацца,
Сэрца даўно пачынае мо' рвацца,
Хочацца ўсё, усё выліць, сказаці —
Сорамна неяк, ну й трэба маўчаці...
Моўчкі стары чараўнік адыходзіць,
Кій свой бярэ, кола кіем абводзіць,
Коўшык прыносіць сьцюдзёнай вадзіцы,
Жменю ў ваду сыпле чорнай зямліцы,
Кажа дзяўчыне у коўшык глядзеці,
Зёлкі прыносіць тым часам ды з клеці,
Крышыць іх, сыпле таксама ў вадзіцу,
У коўшык, куды і Галіна глядзіцца.
Ціха у чорнай закуранай хатцы...
Моўчкі стары пачынае хістацца,
Штосьці нячутна і глуха шапоча,
Доля-нядолю пытае, прарочa:
— „Ўстану я і выйду ў лес-бор паволі,
З лесу-бору выйду ў чыстае поле
Сьпінаю устану я там да заходу,
Стану чыстым тзарам я да усходу...“

Слухае Галя... чуць дыхае... душыць...
Звон быццам б'е, аглушаючы, ў вушы...
Круціцца хата... Туман ад парогу
Ўстаў... спавівае... ня помніць нічога...
Шэпча вядун і ў ваду заглядае,
Зёлак у коўшык сухіх падсыпае,
Сыпле і кажа ціха, паволі,
Жудасна, глуха, што далей, то болей:
— „Абвяжуся я хмарамі сівымі,
Падпаяшуся ранічнай зарою,
Паабтычуся зоркамі малымі,
Абмачуся чыстаю расою,
Абсушуся сонейка касою..."
Шэпча ўжо толькі губамі аднымі
Тайну вялікую... водзіць вачымі...
— „Ні зьмяніць тых слоў, ні даказаць нікому,
Ні старому чалавеку, ні малому.
Іх замкну я дзесяцьцю ключамі,
Зачыню я дзевяцьцю замкамі,
А ключы па лесе раскідаю,
Ў ціне возера-балота пахаваю..."
Скончыў... Прамовіў вялікія словы,
Словы апошнія ўжо, ключавыя.
— „Будзеш шчасьліваю", кажа Галінцы,
Дзякуй кажы тэй шчасьлівай хвілінцы,
Як радзіла да жыцьця цябе маці,
Лепшае долі людзём не спазнаці."
Кажа стары так, яе аглядае,
З дзіўнай усьмешкай у твар заглядае.
Дзіўна дзяўчыне... Крывёю гарачай
Ўся залілася і ледзьве ня плача...
Хлеба ня мае, каб дзеду падаці,
Яек і сыру сіротцы дзе ўзяці? —
Краскі чаромхі яна сарамліва
Дзеду дае і бяжыць палахліва
Вузкаю сьцежкаю ў вёску ціхую
Зноў працаваць на сямейку чужую...

Сонца, што ўстала, усьлед ёй сьмяецца,
Сэрца дзяўчыны калоціцца, б'ецца.
Верыць, ня верыць ёй сонейка ласкам,
Тэй варажбе, чараўнічым тым казкам?
Мгла распаўзлася, радзее і тае,
Сьветласьцяй раніца Галю вітае.
Звонкая песьня да сонца ільлецца,
Сэрца шчасьлівым прадчуцьцем ірвецца.

---

Доля і шчасьцейка, хто вас пазнае,
Тайну жыцьця на зямлі адгадае?
Шлеце надзеі і вабіце марай,
Нам дакляруеце шчасьце, а хмарай
Наша жыцьцё спавіваеце, б'еце
Сэрца штодзень, адпачыць не даеце.
Жыта на ніве яшчэ не дажалі, —
Галю ў гаёчку за вёскай хавалі.
Доўгае жыцьце ёй доля давала...
Эх, на гадочак яго не дастала.
Стаяла ў тыдзень, бы ў цэркаўцы сьвечка,
Хутка схудзелі і шчокі і плечкі,
Вочы-пралескі зусім патускнелі,
Косы адны, як вясною, цямнелі.
Моўчкі дзяўчына цярпела, хварэла,
Моўчкі, нячутна яна дагарэла.
Ўсё варажбу у паўсне ўспамінала,
Шчасьця і будучай долі чакала,
Лес ўспамінала, і сонца, й фіялкі,
Ўдаль ўсё глядзела паглядам русалкі.
Верыла Галя, што шчасьце ўжо блізка,
Так і сканала, як сонейка нізка,
Нізка стаяла і першыя зоры
Ўжо запаляліся ў небным прасторы...

---

Доля і шчасьцейка, хто-ж вас пазнае,
Вашую тайну хто зглыбіць, хто знае?

1924 г.

---

# С н ы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Граюць гусьлі-самагуды,
Песьня-скарга з струнаў рвецца,
То — бы родзіць сны-прычуды,
То — адразу абарвецца...

То — нясецца стогнам смутным
Над паснулымі лясамі,
То — зьнікае дзесь нячутна
За вазёраў паясамі.

Поўна дзіўнае задумы
Ў далях будзіць адгалоскі...
І плыве, радзіўшы сумы,
Тая песьня з вёскі ў вёскі...

Як бяз сонца не пражыці,
Без начы ня знаць спакою, —
Так бяз песьняў цяжка жыці
Ўрань і позьняю парою.

З песьняй можна злой часінай
Смуткі выліць, плакаць, рвацца,
Разам з стайкай жураўлінай
Ў край чужы ляцець, сьмяяцца...

Кажуць казкі: прад вякамі
Не радзілісь вольна песьні.
Думкі вострымі цьвякамі
Рвалі сэрцайка балесьне.

Чалавек, пяюньні - птушкі,
Не пялі, залівалісь,
Спалі песьні-весялушкі,
Словы ў сэрцах пахаваліся...

Пахаваліся... ды паволі
Ўсё расьлі яны і ўрэшце,
Ўрэшце вырваліся з няволі,
Зазьвінелі: „сэрца цешце!

Вылівайце моц каханьня,
Каб усе вас зразумелі,
Вылівайце ў гэтым граньні
Ўсё, што моўчанькі цярпелі!“

Й песьні-скаргі, песьні-думы,
Песьні жарты-сакатушкі,
Паплылі, радзіўшы шумы,
Заліваючысь, як птушкі...

Граюць гусьлі-самагуды,
Песьня-звон са струнаў рвецца.
То — бы родзіць сны-прычуды,
То — адразу абарвецца...

---

„Дзесь за морам-акіянам
Ёсьць старонка дум няясных,
Сноў прыгожых, зорак ясных.
Ў полі, сонцам абліваным,
Ў тэй старонцы прамяністай
Ёсьць высокі белы хорам...
Прыгаством, красою чыстай
Там, падобны ясным зорам,
Расцьвітаюць у сьвятліцы
Пяць дзяўчынак, пяць сястронак:
Стан прыхільны, гібак, тонак,
Мараў чар з вачэй глядзіцца,
Твары белыя, а косы —
Зьзяньне месяца палосаў...
Ткуць дзяўчыны, ткуць ад раньня,
Ткуць вузоры срэбнай пражы...
Хто з іх песьню, казку скажа,

Хто пачуець птушкаў граньне
Ў час вясеньняга сьвітаньня,
Хто з іх выйдзе у садочкі
Дзе стаяць чаромхі ў белі,
Дзе ў пагожыя нядзелі
Сонца ўе сабе вяночкі...
Ткуць дзяўчыны, нахіліўшысь
Над дубовымі станкамі
Залатымі абрусамі,
Паясамі з срэбра, зьвіўшысь,
З-пад рукі плывуць умелай
Ніці золата старога,
Срэбра, шоўку ценявога,
Воўны чорнай, воўны белай...
Ткуць дзяўчыны у пакоры
Шматкалёрныя вузоры...
Іх цалуе ясна сонца,
Заглядаючы ў ваконца,
Ім сьпяваюць салавейкі
Свае песьні срэбналейкі.
А вясёлых думкаў хоры,
Тых, што век ня знаюць гора,
Устаюць і вабяць: „Годзе,
Годзе, шэпчуць, працаваці,
Абрусы шаўковы ткаці,
Пагуляйма на свабодзе!"
Ткуць дзяўчыны сны у кроснах,
Сны прыгожыя, ціхія.
Ў іх і зоркі залатыя
Заплятаюць кветкі з росных
Сенажацяў, і праменьні
Сонца сьветлага, і цені...
І хавае ноч зайздросна,
Усё, што выткана у кроснах...

---

Сны тчэ першая дзяўчына,
Шматкалёрных сноў тканіны:

Сны вясёлыя, як дзеці, —
У ружовых ніцяў сеці;
Сны гарачыя каханьня —
Ў чырвань яркую згараньня..
Крые нудных сноў тканіны
Ніткай шэрай павучыны,
Затыкае сны, як казкі
Ў мілы тон пралескі-краскі,
А сувоі сноў прыгожых —
Крые беляй белых рожаў.

Тчэ другая па калеі
Чуць-зялёны шоўк надзеі...
Тая — сіняй грой адценяў
Тчэ чароўнасьць лятуценьняў,
Гэна зноў, ў правідным ценю,
Разлажыўшы на калені,
Чорным шоўкам, срэбрам старым
Ўсьцяж пляце начныя мары...

А астатняя маўкліва
Заканчае ночы жніва:
Хваляй белых аксамітаў
Тчэ спакой душы, ўжо сытай...

Ткуць дзяўчыны, ткуць сястрыцы
Ўсё, што можа нам прысьніцца,
І, зайздросна ноч хавае
Ўсё, што з кроснаў выплывае...

---

А як згасьне дзень між хмараў
Туманы спаўюць зямліцу, —
Ноч нясе ў імглу абшараў
Ўсё, што выткана ў сьвятліцы...

Шляхам месячных праменьняў,
Пуціной дрыжачай зораў,
На зямлю, у сьвет імкненьняў
Йдзе з-за сьветавых прастораў

І распальвае настроі
Бліскавіцаю між хмараў,
Разьвівае сноў сувоі,
Расплятае ніці мараў.

Ўсіх замучаных, прыстаўшых,
Ўсіх, спрагнёных адпачынку,
Шчасьця ў шэры дзень ня знаўшых, —
Заварожыць на хвілінкі.

Хай забудуць дзень галодны,
Хай у сьне зазнаюць ласкі,
Заліе іх горам зводным,
Занясе ў краіну казкі..

Ўсю зямлю крылом абыйме,
Закалыша, залюляе,
З сэрцаў важкасьць гора здыйме,
Боль вясьняным сьнегам стае...

І над змучаным поэтам
Затрымаецца... схінецца...
А назаўтра сьпеў пальлецца,
Сьпеў, што вытканы за сьветам"..

1925 г.

---

# Тры браты.

(*Народнае апавяданьне*).

I

Тры браты канёў сядлаюць
І бацькоў перапрашаюць
Прад абразам на каленях
Просяць іх багаслаўленьня.

Брат найстаршы — паляўнічы,
Што ў бары дзічыну ліча,
І сярэдні брат — араты,
Што пільнуе поля й хаты,
І малодшы брат — поэта,
Закаханы ў гожасьць сьвету, —
Праз бары, яры, затокі
Едуць сёньня ў сьвет шырокі
Па прыгожую дзяўчыну,
Жонку, любку, гаспадыню.
Тры браты, дубы у полі,
Галавой сягаюць столі,
Як асілкі маюць грудзі
Й не жанаты... Кажуць людзі:
— „Час даўно ўжо, што й казаці,
Мець бацьком нявестку ў хаце:
Покуль з жыцьцем разьвітацца,
Ўнукаў хочацца даждацца!“

Ў дзень прыгожы, яснавокі
Едуць брацьці ў пуць далёкі.
За сялібай, над ракою
Лёс кідаюць: хто кудою?
Старшы брат зьвяртае ўправа,
Праз чароты, ціну става

Ў бор кіруецца, што з хаты
Чуць відаць, як пас зубчаты.
Срэдні — з песьняй удалою
Едзе проста прад сабою,
Едзе ўдаль, дзе каласіцца
Мора срэбнае пшаніцы.
Меншы — ўзяць уліва хоча,
Бо там шчасьце лёс прароча,
Дзе ў вадзе цьвітуць лілейкі,
Божы краскі-самасейкі,
Дзе ў бязьмежнасьць вабяць далі,
Дзе так ясны сонца хвалі!

Едуць, едуць, ад'яжджаюць,
Чуць відаць, зьнікаюць, таюць...
Толькі пыл яшчэ клубіцца
Ды калышацца травіца
На пяшчыстай на сьцяжынцы,
Ля бацькоўскага дзядзінца.

II.

Ўецца вузкая дарога
Каля лесу, ля густога.
То крутнецца у лагчыну,
То завернецца ў гушчыну,
Абыходзіць ёлак сплёты,
Праз дрыгву йдзе, праз балоты.
Едзе старшы брат вясёла,
Бор шуміць-гудзе наўкола,
Сіні цень яго хавае,
Сонца косы раскідае,
Шэпчуць хвойкі маладыя,
Байкі, казкі залатыя,
Павявае пах маліны,
Ўспамінае чар дзяўчыны.

Ўецца вузкая дарога
Ў моры жыта залатога.

То — управа крутанецца,
То — уліва павярнецца,
Абыходзіць сенажаці,
Йдзе праз грэблі і праз гаці...
Едзе срэдні брат ахвоча,
Едзе ўдзень і едзе ўночы:
Ясна сонца яго грэе,
Прахалодай вецер вее,
Жыта шэпча яму казкі,
Навяваюць думкі краскі,
Чырванеючы ў травіцы,
Аб дзяўчыне-чараўніцы.

Ўецца вузкая дарога
Каля возера ціхога...
Абыходзіць мора кветак,
Стужкай ўецца праз палетак
Ў даль нязнаную, дзе горы
Ў неба гінуць сінім моры.
Едзе меншы брат, сьпявае,
Песьняй божы сьвет вітае.
Яму шле праменьні сонца,
Вабіць цень густы ў старонцы,
Неба, сонца, хмаркі, дрэвы,
Пчолаў гуд і птушкаў сьпевы,
Матылі на канюшыне
Ўспамінаюць аб дзяўчыне...

III.

Ў чыстым полі пры каліне
Тры крыжуюцца дарогі.
На растані — крыж убогі,
Студня, плот, садок і хатка,
А у хаце — дзеўча з маткай.
А й харошая-ж дзяўчына —
Сінявокая Галіна!

Яе вочы — дзьве пэрлінкі,
Як дзьве раньнія расінкі,
Яе косы — жыта хвалі,
Што на сонцы дасьпявалі,
Яе вусны, як маліны,
Стан, як стромкі ствол *) сасьніны,
Голас сьпеўны, пераліўны
Будзіць сум і вабіць дзіўна...

Старшы брат мінаў ураньні
Крыж і хатку пры растані.
Да крыніцы, дзе каліна,
Па ваду ішла Галіна.
Йшла, ішла, яго спаткала,
Усьмяхнулася, і стала..
Старшы брат вачэй ня зводзіць,
Кроў барждзжэй у жылах ходзіць,
Сэрца б'е, бы птушка ў клуні
Й, сьмяючыся да красуні,
Ён назад каня вяртае,
Бо знайшоў, чаго шукае·
Сватам верне да дзяўчыны,
Ў якой вусны, як маліны.

Срэдні брат быў упалудні
Каля хаткі, каля студні:
З вязкай сьвежай канюшыны
З поля, з працы йшла Галіна.
Йшла, ішла, яго мінула,
Абярнулася й зірнула..
Хлопец стаў. З чароўнай сілай
Сэрца шчырае забіла.
Штосьці сэрца просіць, хоча,
Й, на дзяўчыну ўзьвёўшы вочы,
Ён назад каня вяртае,
Бо знайшоў, чаго шукае:

---

*) Камель.

Сватам вернецца да Галі
Ў якой косы — жыта хвалі...

Меншы брат быў на заходзе
Каля хаткі пры гародзе.
З сенажаці, з лугавіны
Гнала ўжо кароў дзяўчына;
Йшла, ішла, яго сустрэла
І пагляд спаткала сьмела.
Меншы брат уздрыгануўся,
Да дзяўчыны ўвесь рвануўся.
Мары, сны адбілісь сэрца
На твары, як у люстэрцы:
Ўвесь ня свой — назад вяртае,
Бо ўжо сон — на яве мае:
Сватам верне да Галінкі,
Ў якой вочы, як пэрлінкі.

———

На дзядзінец узьяжджаюць
Тры браты, бацькоў вітаюць,
Просяць іх багаслаўляці,
На вясельле людцаў зваці.
Тры банкеты, тры вясельлі
Справіць бацька да нядзелі,
Тры красуні, тры дзяўчыны
Ўвойдуць заўтра да радзіны.

IV.

Яшчэ сонца ня вітае
З-за кароны цёмнай гаю,
Яшчэ ў лесе, у гушчары
Туману клубяцца хмары,
А ўжо перад старшым братам
Ясны сокал ляціць сватам,
Ляціць сватам да Галіны,
Ў якой губкі, як каліны.

Яшчэ сонца ня відаці
Над мурогам сенажаці,
Яшчэ кропелькі расіцы
Жутла зьзяюць на пшаніцы, —
А ўжо перад сярэднім братам
Мал жаўронак ляціць сватам,
Ляціць сватам ён да Галі,
Ў якой косы — жыта хвалі.

Яшчэ сонца не сьмяецца,
Бліск з нябёсаў ня ліецца
Яшчэ толькі гаснуць зоры,
Сьпяць у лесе птушкаў хоры,—
А ўжо прад малодшым братам
Салавейка ляціць сватам,
Ляціць сватам да Галінкі,
Ў якой вочы — дзьве расінкі.

Старшы брат выкуп багаты
За любую ўносіць ў хату:
Многацэнных кунаў скуры,
Гарнастайкі, собаль буры,
Мёд пахучы, бурштыновы,
Бору, соснаў пах здаровы.

Срэдні брат у хату зносіць
Выкуп свой, прыняці просіць:
Раскладае зьвіткі лёну,
Жыта з роднага загону,
Воўну белую, пшаніцу, —
За дзяўчыну-чараўніцу

Меншы брат з каня зьлязае,
Йдзе у хату і выймае
Златалітыя пярсьцёнкі,
Што з чужой прывёз старонкі,
І пытаецца, як ласкі,
Аб дзяўчыне сваей казкі.

———

Так у хаце пры растані
Брацьці зьехаліся ўраньні.
На сябе яны зірнулі,
Дзіўна твары адвярнулі,
Усьмяхнуліся панура...
Ой, там будзе, будзе бура,
Бо няма вастрэйшай звадкі,
Як з-за дзеўчыны-загадкі!

V.

Сумна, сумна, як каліна
Ўвосень дождж з галін страсае.
Сумна, сумна, як дзяўчына
Дробны сьлёзы вылівае:

— „Ой, чаму, чаму я, маці,
Сьлёзы мушу праліваці?
Каб была я сонцам ясным,
Каб была я ветрам буйным,
Каб была імглою раньняй,
Каб была крыніцай тою
З жыватворнаю вадою, —
Я-б любых абагрэла,
Абсушыла-б суха цела,
Абхінула-б мглою белай,
Ад'жывіла-б думкай сьмелай!“

Так заводзіць прычытаньні
Дзеўча ў хатцы на растані,
А у полі вецер вее,
Дробны дождж над полем сее...
Сьпяць браты у сьне глыбокім
Пры кургане, пры высокім.
Іх і дождж сьцюдзёны мочыць,
Ім і сонца паліць вочы,
Іх і вецер буйны сушыць,
І каршун парой варушыць,

Груганьнё кругом лятае,
На грудзёх у іх сядае,
І вочы дзюбай заглядае...

Што-ж так моцна там паснулі?
Ці-ж і грâганьня ня чулі?
Ці-ж іх сонца ня збудзіла?
Й навальніца не змачыла?

Ой, дарма чакаеш, бацька,
Трох сыночкаў да нядзелі
На гучное на вясельле!
Ў жменю лепш вазьмі пшаніцы,
Пасей яе па вадзіцы,
Як пшаніцу пазжынаеш,
Тады дзетак прычакаеш:
Бо навекі ўжо, відаці,
З-за харошага дзяўчаці
Палеглі ў крывавай бойцы
Тры браты, тры братабойцы!

1924 — 1925 г.

---

# Лебядзінае возера.

— „Тут былі калісьці лясы цёмныя,
Цёмныя былі яны, высокія,
Возера ляжала тут нямалае,
Возера ляжала лебядзінае.
Ў возеры тым жыў сам лебядзіны цар,
Жыў ён, цар, з малымі лебядзёнкамі,
Жыў ён, цар, з лябёдачкамі белымі.
Ой, было лябёдкам тут раздоліца,
Згодна яны жылі, ціхамірненька,
Ў возеры адны яны купаліся,
Крыльлейкамі ў хвалях паласкаліся,
Ды прышоў канец іх жыцьцю вольнаму,
Ды прышоў канец, ужо ня вернецца.
Людзі неяк раз там заблуталіся,
Людзі неяк раз там лебядзёў знайшлі.
Ціха яны к возеру спускаліся,
Стрэлы павыцягвалі калёныя,
Лукі панацягвалі кляновыя,
Білі яны стрэламі сівых лебядзёў,
Білі іх у пёркі, ў грудзі белыя,
Цэліліся ў голавы іх буйныя,
Ўсіх забілі жоначак — лябёдачак,
Ўсіх забілі лебядзёў — маленечкіх,
Цэліліся людзі ў самаго цара,
Ў гэтага ў цара у лебядзінага.
І казаў тады ім лебядзіны цар:

— „Гэй вы, людцы, людзі неразумныя,
Лукі вы навошта панацягвалі,
Стрэлы вы навошта слалі ў возера,
Усіх забілі дзетак маіх дробненкіх,
Ім, лябёдкам белым, узялі жыцьцё?
Будзьце-ж вы, людцы, навекі праклятыя,

Прокляты за сэрцайка каменнае,
Шчасьця вам ня знаці супакойнага,
Птушак як пабачыце, — успомніце:
Будзе вам хацецца іх губіці, біць,
Будзе вам хацецца, як яны, лятаць...
А і хто яшчэ на гэтым возеры
Лебядзя заб'е — ці так, ці [illegible] умыслу,
Лебядзя заб'е ці каляной стралой,
Ці так скруціць шыю яму белую, —
Хто заб'е, той сам памрэ у возеры:
Ня губі, злы, жыцьця лебядзінага!"

Так сказаўшы, выплыў цар сярэдзінай,
Выплыў, паабтрос ён пёркі белыя,
Узмахнуў крыламі лебядзінымі,
Пахаваўся ў чыстым сінім возеры.
Выйдзе ён, як людзюхны зьвядуцца ўсе,
Выйдзе ён з-пад возера глыбокага,
Узмахне крыламі бела-белымі,
Прызаве жанок сваіх лябёдачак
Са дзяцьмі малымі, лебядзёнкамі,
Будуць над людзямі яны суд судзіць,
Суд-судзіць над імі і адказ прасіць..."

———

Так казала Алёнка-залётніца,
Да князёвых ласкаў ахвотніца,
За руку яго трымаючы,
З рукі стрэльбу вынімаючы.
Апусьціўся князь, усьмяхаючыся,
Па траве-мурагу раскідаючыся,
Мо' паверыўшы казцы, мо' так, бо любіў, —
Маладую лябёдку ён, князь, не забіў.
Эх, ня вецер каліначку ў полі ламаў, —
Князь Алёнку туліў да сябе, абнімаў,
Не хмяліначка ля кіёчка завівалася, —
Алёнка да любога княза схілялася,

А ўжо сонейка ў небе нізка было,
За горы-гарыстыя спаці ішло...

---

А і хочацца Данілцы спаці,
Цяжка з лаўкі дубовае ўстаці,
А і хочацца, і ня хочацца,
Думкі рэчкаю быстрай коцяцца.
Як паехаў князь на тым тыдні ў лес,
За ласём ішоў, у гушчар улез,
Ад зары скакаў між густых сасон,
Ад капытаў гул нёсься ўдаль, як стогн,
А і езьдзіў князь ды пакрыківаў,
Сваіх верных слугаў пакліківаў.
А за іх усьлед разам йшлі псары,
З ім, Данілаю маладым, ўгары.
На Данілцы быў дарагі каптан,
Паяс шоўкавы жамчугом заткан,
Шапка новая, сабаліная,
На ёй пёрка сакалінае,
З-пад яе кудры падалі русыя,
Бровы хмарыліс нешта густыя,
Углядаліся ўдаль вочы сьмелыя,
Як дзьве зоркі далёкія, белыя...

Ня віхор ляціць і асінкі гнець,
Лятучы праз лес, на бярозы дзьмець, —
Гэтак скача Даніла праз старыя пні,
А і скача ён на сваім кані...

Ўсё сьвятлее лес, радзей рад сасон...
З вараным канём на паляне ён...
Ня чуваць сабак, ня гудуць псары,
Бор стары, глухі, як усе бары,
Па бакох кусты маладых ляшчын,
А над імі сплёт векавых галін...

Стаў Даніла, аглядаецца,
У сьляды свае ўзіраецца.

Конь пад ім дрыжыць, капытамі б'е,
У халодны цень, пад кусты заве...
Пад кустамі сьцежачка ўецца,
Тою сьцежкай Даніла імкнецца.
Аб суччо сасон абарваў паяс,
Сходзіць сонейка, ўжо няраньні час,
А Даніла ўсё скача па сьцежачцы,
Ўсё скача, аглядаецца,
У сьляды свае ўзіраецца...

Толькі што гэта за возера ляжыць,
Што за сіняе, прыгожае блішчыць?
Берагі ў яго зялёныя,
Асакою кругом абнясёныя,
Спавітыя чаротам-гаротнікам,
Да нярадасных казкаў ахвотнікам,
Пасярэдзіне лебядзі плаваюць,
Ваду крыльлямі б'юць лебядзінымі,
За сьнягі храшчэнскія бялейшымі,
За росы купальскія чысьцейшымі.

Даніла да возера на кані пад'яжджае,
Як на той бок праехаць, шукае...
Бачыць чорную грэблю ля млыну,
Бачыць кола праз дрэваў тканіну,
Пена густа з-пад кола нясецца...
Далей хата... дым стужкаю ўецца...

Пад'яжджае Даніла, аглядаецца,
У ваду, у млын узіраецца...

Ня дрыжыць зямля, калі гром грыміць,
Не гарыць зара, калі сонца сьпіць, —
А дрыжыць душа маладзецкая,
А іграець кроў удалецкая:

Ля самой вады, дзе з тугі-нуды,
Асака стаіць і глядзіць туды,

Дзе на цёмным дне вадзянік ляжыць,
На сырым пяску, ўвесь у ціне, сьпіць,
Ля самой вады... сядзіць князь, а з ім
Млынара дачка... Праз лісьцё вярбін
Зіхаціць паяс, што як жар гарыць,
Відаць новую сукню князёвую,
Відаць шапку яго атласовую
Ды [illegible] аздобаю жамчуговую,
Відаць князевы боты казловыя,
Чуваць князевы словы вясёлыя...

Не хмялінaчка ля кіёчка завіваецца, —
Не чароцінка над возерам схіляецца,
Не, дачка млыныра усьмяхаецца,
Да князёвых грудзёў пахіляецца,
За пагожы дзянёк прыгажэйшая,
За сонейка ў небе сьвятлейшая...
З-пад павекаў прымкнёных гараць, блішчаць
Яе вочы, дзьве зоркі зялёныя,
Кравяныя каралі на шыі вісяць...
Цела, сонцам і лесам ўспаёнае,
Да вады, як чароцінка, клоніцца,
А як склоніцца, — пераломіцца...

Каля грэблі вярбінаў рад стаіць,
За вярбінай Даніла хаваецца,
У грэблю праз суччо узіраецца,
На дачку млынара заглядаецца.
Любіць князя Алёнка-залётніца,
Да яго пацалункаў ахвотніца.
Валасы чэша ручкаю белаю,
Ў яго вочы ўзіраецца сьмелыя...

Не сакоча за хвойнікам ластаўка,
Не пяе салавейка над возерам, —
Так сьмяецца Алёнка, гаворачы,
На траве з князем седзячы побачы...

Як скацілась за лес сонца краснае,
Як устаў белы месяц заплаканы,
Толькі ў той час яны разьвіталіся,
У апошні раз цалаваліся.

Сонца, сонейка, сонца краснае,
Чаму рана схавалася?

Як-жа мне не хавацiся,
Час да дому варачацiся,
Старым людцам трэ' супакой даць,
Маладым людцам — да зары гуляць...

---

А і хочацца Данілцы спаці,
Цяжка з лаўкі дубовае ўстаці,
А і хочацца і ня хочацца,
Думкі рэчкаю быстрай коцяцца...
Ўспамінае Даніла той лес густы,
Ўспамінае возера лебядзінае,
Млын і грэблю за гнуткай вярбінаю,
Ўспамінае Алёнку-залётніцу,
Да князёвых ласкаў ахвотніцу,
Ўспамінае яе вочы зялёныя,
Бліскам месяца, хіба, ўспаёныя...

Ня дрыжыць зямля, калі гром грыміць,
Не гарыць зара, калі сонца сьпіць, —
Гарыць сэрца маладзецкае,
Кроў іграець удалецкая:
Палюбілася Данілцы млынара дачка —
Маладзенькая Алёначка.

Праз тры дні ізноў князь паехаў ў лес,
Зьбіўся з сьцежачкі, у гушчар улез,
Паміж хвой скакаў, на псароў крычаў,
Вараненькага панукаў і гнаў.
Толькі пёркі — раі пчаліныя
Па-над шапкай вілісь сабалінаю...

Зноў за ім усе уздагон нясьлісь,
Крыкі з брэхам сабакаў князёвых зьлілісь,
Зноў Даніла адстаў, прызадумаўся,
На Алёнку, пэўна, уздумаўся...

Вынес конь яго аж на возера,
На ціхое возера, лебядзінае,
Дзе шэпчуцца івы з вярбінаю,
Дзе лілейкі у сіняй вадзе цьвітуць,
Дзе белыя лебядзі на вадзе плывуць...

Не калінка да сонейка цягнецца,
Ня зорачка — месячык выглядае,
Алёнка на грэблі князя чакае,
З белых лілейкаў вяночак сплятае,
Шэпча-варожыць, яго заклікае:

— Ўжо лажыцца раса на кусты лазьняка,
Ужо сонца за хвойкі хаваецца,
Ужо ночная мгла распаўзаецца,
А яго, сакалочка, няма, як няма...

Сакалочак мой ясны, прыгожанькі!
Як бяз начанькі зоркам не сьвяціці,
Так і мне без цябе не пражыці!
Хмаркі ў небе агнём запаляюцца,
Жоўты месяц з зямлёю вітаецца,
Разгараецца ў сэрцы каханьніца,
Як пасьля начы рассьвітаньніца...

Любы, любы, прыгожанькі
Сакалочак,
Глядзіцца месяц двурожанькі
Ў наш куточак.

Прыдзі, прыдзі, мой месячык,
Пакланюся,
Да сэрца твайго, дубочак мой,
Прытулюся.

Табе я дам, табе я дам
Вяночак,
На вечнае вітаньніца,
На шчырае каханьніца,
Сакалочак!“

Так Алёнка на грэблі ўсё князя чакае,
З белых лілейкаў вяночак зьвівае,
Шэпча-варожыць, яго заклікае...

Гулкі грукат капытаў з-за грэблі ляціць,
Відаць князеву сукню атласовую,
Відаць шапачку яго шаўковаю
Ды з аздобаю жамчуговаю,
Відаць пёркі на шапцы сакаліныя,
Відаць вараненькага за вярбінаю...

Ярчэй зорачкі над зямлёй гараць,
Сьвятлей месячык сьвеціць высака, —
Сходзіць князь з каня, да каханкі йдзе,
Да грудзей туліць, абыймаецца...

А Алёначка заліваецца
Шэрай птушачкай-сакатушачкай,
Бы каліначка, хістаецца,
З любым князем вітаецца...

Добра, сонейка, што схавалася
За лясы, за тры высокія,
За палі, за тры шырокія:

Старым людцам трэ' супакой даць,
Маладым людцам — да зары гулядь.

---

Не заўсёды сонейку ў небе сьвяціці,
Не заўсёды людзём на зямлі любіці...
Пагуляў князь з Алёнкай-залётніцай,
Да яго пацалункаў ахвотніцай,
Пагуляў з маладзенькай, нацешыўся,
Месяц блізка ўсё езьдзіў на возера,

На ціхое возера лебядзінае,
Дзе шапочуцца іва з вярбінаю,
Дзе лілейкі белыя ў вадзе цьвітуць,
Дзе лебядзі белыя па вадзе плывуць.
Месяц блізка ўсё езьдзіў... а там... пазабыў,
Ў іншым месцы мо' сэрца свае весяліў?

Ды й праз хмары зорачкі зьзяюць,
Й пасьля крыўды дзяўчыны кахаюць:

Сонца яснае за лес коціцца,
За сады ідзе, за пахучыя,
За рэкі ідзе, за цякучыя,
Па-за хмарачкі хаваецца,
Крывёй неба заліваецца.
Наступае ціха ночка на зямлю,

Наступае, разпаўзаецца,
Па глухіх куткох хаваецца, —

А Алёнка ля грэблі ўсё князя чакае,
Шэпча-варожыць, яго заклікае.
А і дзень няма, а і два няма,
А і тыдзень няма, а і два няма...

Б'ецца ластаўкай Алёначка,
Б'ецца птушачкай у клетачцы:

„Пашкадуй ты мяне, гора горкае,
Ня круцецесь асвы, думкі чорныя", —
Не бярозка у полі зьвіваецца,
Не зялёная нізка схіляецца, —
Так схіляецца, зьвіваецца
Маладзенькая Алёначка...

Не глядзеце на сьвет, вочы ясныя,
Не глядзеце на сонейка краснае,
Закацілася вашае сонейка
За глыбокія рэкі празрыстыя,
За высокія горы-гарыстыя.

Ня цьвісьці лілейкам у злую зіму,
Не глядзеці Алёнцы у вочы яму,
Не сплятаці вяночкаў, як краскаў няма,
Ня любіць - мілаваці, як яго няма...

Разьлюбіў, ой, Алёнку багаты князь,
Нагуляўся з душою дзявочаю
Да слоў яго здатнай, ахвочаю!.."

Гэтак плача Алёнка-залётніца,
Белы ручкі ламаець гаротніца,
А Даніла што-вечар за вярбой стаіць,
А Даніла што-вечар на яе глядзіць...

Маладзенькай Алёнкі яму шкада,
Запаляецца ў сэрцы на князя злаба,
Сэрца з болю ў грудзях разрываецца...
Падыйсьці ён бліжэй не рашаецца.

Ой, хварэець душа маладзецкая,
Ой, муціцца кроў удалецкая.
Так, здаецца, з распачы дубок-бы зламаў,
Лебядзём-бы галоўкі усім пазьбіваў,
Пух пусьціў-бы высока, пад сонейка,
Пёркі плаваць пусьціў-бы па возеры,
А забіўшы — і сам-бы сьмерць знайшоў,
Ня любіў-бы вось так, не жалеў ізноў...

---

Дні плылі, як вада...
Ужо восень прышла,
У шаўкі, у вагні
Бор густы запляла.

І каменныя горы вада прабіваець,
І страх-нерашучасьць ахвота забіваець:

Раз выходзіў Даніла з-за старых вярбін,
Раз выходзіў ён, аглядаючыся,
Падыходзіў да грэблі, да возера,

Падхадзіў да Алёнкі-гаротніцы,
Браў Алёнку з ручку, за белую,
Так казаў ён Алёнцы-гаротніцы:

— „Ой, Алёнка, ой, зорка, до', любка, стагнаць,
Досыць горкае гора сваё гараваць.

На сьвеце ўсё забываецца,
Забываецца, як мінаецца:

Забываюць краскі, што зімка была,
Забываюць птушкі, што сьцюжа была,
Забываець сонца, што хмары ёсьць,
Забываюць росы, што сонца ёсьць,

Бо усё, што прайшло, — забываецца,
Забываецца, бо мінаецца...

Кінь муціць свае вочкі бліскучыя,
Кінь ламаць свае ручкі бялéнькія,
Кінь ірваць свае косы дзявочыя,
Кінь ты думаць аб князю, аб здрадніку!"

Запаліліся вочы Алёнчыны,
Паднялася галоўка шаўковая,
Расчыніліся вусны зьбялеўшыя,
Так казала Алёнка-залётніца,
За свой век маладзенькі гаротніца:

— „Ой, ты, злы чалавек, адыйдзі ад мяне,
Ён мой любы, ён, ён ня здраднік, не,
Ня любіў — не ласкаў-бы так горача.
Эх, ня сонейка яркае траўку паліла,
Ня ветрык у полі былінку калыхаў, —
Так палілі яго ласкі шалёныя,
Цалавалі яго вусны чырвоныя!

Адыйдзі ад мяне, адыйдзі, ты — ня ён,
Яго вочы, як зоры апоўначы,
Валасы — быццам хвалі шаўковыя,
Яго шчокі — як ранкі маёвыя,

Яго словы за мёд саладзейшыя,
За самога цара́ разумнейшыя...

А ў цябе вочы шэрым ваўком глядзяць,
Ой, нядобрым агнём, няпрыгожым гарэць,
Твае чорныя бровы нахмараны,
Твае русыя кудры нячэсаны,
Твае словы нажом колюць сэрцайка,
Словы злыя твае, невясёлыя"...

Так казала Алёнка, схіляючыся,
Сумна - сумна яму усьмяхаючыся,
За старою вярбою хаваючыся...

Не злавіці саколу лябёдачкі, —
Ён высока лятаець, ды ў вадзе ня гуляець.
Не дастаці Данілцы Алёначкі, —
Доўга любіць сэрца дзявочае
Да ласкавых словаў ахвочае.

———

Затужыў Даніла не на дзень, ці два,
Затужыў тут Даніла на месяцы:
Бо як зжоўклі лілейкі на возеры,
Абляцелі лісточкі зялёныя, —
Зьнікла дзесьці дачка млынаровая,
Не спаткаўся ён болей з Алёнаю...

Ой, ня йшлі над зямлёй дажджы дробныя,
Ой, ня сонца за хмары хавалася, —
Хмара вочы Даніла тугой спавіла,
І вясёласьць, і жарты кудысь узяла...

Наступала яна, хмара чорная,
На ціхое на небачка сіняе,
Налягала гора-горкае
На Данілава на сэрцайка.

Запрымéціў князь, што маўчыць халоп,
Запрымеціў князь, панахмурыў лоб,

Прыказаў ён паклікаць Данілу к сабе,
Так пачаў князь ласкавыя словы свае:
— „Ой, слуга мой, Даніла, што хмурышся,
Што-ж ты хмурыш усё бровы густыя,
Што ня чэшаш свае кудры русыя,
Ня ўбіраешся ў новыя вопраткі,
Ня ідзеш, як заўсёды, на плошчу гуляць,
На людзей паглядзець і сябе паказаць?
Не пяеш болей песьні вясёлыя —
Усё на лаве сядзіш, у ваконца глядзіш,
І удзень, як уночку, маўчыш?
Мо' пакрыўдзіў цябе хто, ня хочучы?
Нездаволен мо' княжаю міласьцяй?

Калі так, толькі слова сказаць, —
Усяму можна раду падаць"...

Пакланіўся Даніла князю, устаў,
Пакланіўся яшчэ раз, яшчэ раз устаў.
І сказаў тады князю Даніла так:

— „Ой ты, ласкавы князю, што ўздумаўся,
У халопа аб крыўдзе пытаешся?
Не пакрыўдзіў мяне, Данілу, ніхто,
Усім у князя я моцна здаволены,
Для мяне князь і добры, і ласкавы,
А пакрыўдзіла халапа долечка,
А пакрыўдзіла яна, наравістая...

Не зламаць табе горы-гарыстыя,
Ой, ня вырваці пушчы лясістыя, —
Дык і мне не дасі, князю, радачкі!
Адпусьці мяне, княжа, на вольны сьвет,
Адпусьці мяне гора разьвеяці,
Свае чорныя думкі разьсеяці:

Тут, у гэтых харомах з нуды памру,
Тут з сьмяротнай тугі я зусім прападу,
Тут няма ў мяне вольнае волечкі,
Не дасі ты мне, князь, лепшай долечкі!"

Зазлаваўся на гэткія словы князь,
Тупнуў ён з усей моцы нагою,
Узмахнуў ён гняўліва рукою,
Прыказаў ён Данілу замкнуці у склеп,
За шырокія муры каменныя,
За цяжкія за дзьверы дубовыя,
За старыя замкі, за жалезныя.
Прыказаў пасадзіці на тыдзень, і два,
Прыказаў пасадзіці на месяцы,
Кабы волі ад долі халоп не жадаў,
Кабы князю аб волі ужо не казаў,
Каб дарма, неразумны, ня нудзіўся,
Каб дарма чорнай хмарай ня хмарыўся...

А як холапа Данілу пасадзілі,
За ім дзьверы на замкі пазачынілі, —
Князь сабраўся з дружынаю зноў у лес,
У вясьняны лес, расцьвітаючы,
Па даўгой зіме ад'жываючы...
Князь сабраўся з дружынай багатаю,
Ды з гасьцямі, ды з цэлаю хатаю,
Каб на цэлы бел' сьвет панацешыцца,
Пакуль сэрцайка хоча, каб цешыцца,
Каб сябе весяліць, каб і госьцяў прасіць,
Аб зухвалым халопе зусім пазабыць...

Але доля судзіла па іншаму...
Захацела яна, непазнаная,
Каб здарылася рэч нечаканая.
Хто-ж пазнае яе, долю горкую,
Маўклівую, негаворкую?

Сабраліся... Ды нешта ня ладзіцца,
За пасаду Данілаву вадзяцца,
А Даніла быў першым усюданькі:
Калі ён ідзе — ўся грамада йдзе,
А як ён ня йдзе — дык ніхто ня йдзе...

Няма роўных Данілу ў сырым бару,
Роўных сьмеласьцяй і здагадкаю,
Звонкай песьняю, мовай гладкаю...
Прыказаў князь злажыць кару строгую,
І заняцца Данілцы дарогаю...

---

Першы дзень — паляваньне у лесе ішло,
Другі дзень — паляваньне у лесе ішло,
Трэці дзень — паляваньне у лесе ішло,
На чацьверты дзень выйшлі на возера,
На ціхое возера, лебядзінае,
Дзе шапочуць іва ■ вярбінаю,
Дзе лілейкі белыя у вадзе цьвітуць,
Дзе лябёдкі белыя па вадзе плывуць:
Ой, прызнаў князь і возера сіняе,
Ой, прызнаў князь і грэблю з вярбінаю,
Дзе сядзеў ён начамі з дзяўчынаю,
Ой, успомніў ён казкі Алёнчыны,
Ой, успомніў ён словы дзявочыя,
Да ўсялякіх байкаў ахвочыя...

Ўспомніў казку аб тым лебядзіным цару...

Захацелася князю пацешыцца,
Пахваліцца, на ўвесь дзень усьцешыцца,
Пасьмяяцца над казкай Алёнчынай.

Іншы хваліцца — прыгаством сваім,
Іншы хваліцца — сьветлым розумам,
А як князь, — хваліўся толькі сілаю,
Сілай злоснаю, неразумнаю...

Падхадзіла тут доля нядолечка,
Падхадзіла нячутна, ціхусенька,
Кралась полем, лясамі русалкаю,
Праз вазёры плыла вадзянкаю,
Па сьцежцы ішла — нагіналася,
Жабрачкаю прыкідалася.

Йшла з-за мора, мора сіняга,
З чыста поля йшла, з далёкага.
У ваконца яна ня кляпалася,
Ля парогу яна не малілася,
На пярэдні кут не жагналася,
Памалюсеньку йшла, паціхусеньку,
Груганом у ваканца залётывала...

Захацелася князю пацешыцца,
Захацелася князю усьцешыцца,
Пракаціўся стрэл па глухіх кутках,
Пракаціўся стрэл і разьвеяўся.
Узмахнула крыламі лябёдачка,
Узмахнула галоўкаю белаю,
Ой, чырвонай крывёй фарбаванаю,
Куляй князя наскрозь прабіванаю...
Тое ўбачыўшы, князь асьмеліўся,
Засьмяяўся ён, зноў нацэліўся...

Ды Данілка ўсё бачыў з-за дзераўца:
Захацелася хлопцу памерацца.
Як стаяў ён за гнуткай вярбінаю,
Ўспомніў князевы ласкі [illegible] дзяўчынаю,
Ўспомніў вочы Алёнкі зялёныя,
Бліскам месяца ўночы ўспаёныя...
Бачыў князевы жарты нікчэмныя,
Кроў убачыў на сінім на возеры,
Ўбачыў птушку, крывёй фарбаваную,
Куляй князя наскрозь прабіваную...

Не сьцярпела, знаць, сэрца хлапецкае...
(Захацеў, знаць, і сам ён памерыцца,
Ці ў дзявочых славох пераверыцца)
За вярбінай укленчыў, прыцэліўся,
Ды з гарачкі, ці што, перамерыўся:
Кабы ўправа браць, — ён улева браў,
З-за вярбіны на князя, відаць, не ўважаў.

Пракаціўся гук-стрэл па лясных кутках,
Пракаціўся далёка па возеру.
Па ціхаму возеру, лебядзінаму.
Успляснула крыламі лябёдачка,
Ажно пухам вада забялелася,
Адплылася... ў чароце дзесь дзелася.
Але князю... нядобрае сталася:
Дзіўна целам здаровым хістаючы,
Стрэльбу з белай рукі выпускаючы,
Як дубок віхрам-бураю зломаны,
Паляцеў ён бяз крыку, бяз гоману,
Паляцеў у ваду, у бяздоньне хваль,
На астатні баль, на сьмяротны баль...

Ой, дарма, князю, гэтак уздумаўся,
Лепш-бы, князю, ня езьдзіў на возера,
На ціхое возера, на сіняе,
На ціхое возера лебядзінае,
Ня ішоў-бы на грэблю, дзе пена ляціць,
Дзе кроплі-вада, як жамчуг, зіхаціць,
Ня ішоў-бы, ў лябёдку-б ня цэліўся,
Можа ў казцы-бы, князь, пераверыўся!

---

То было ўсё, ды тое зьмянілася,
То было ўсё, ды тое забылася,
Толькі і сёньня у небе многа хмар,
Бо і праўду-ж казаў лебядзіны цар:

— „Гэй, вы, людцы, людзі неразумныя,
Будзьце вы навекі, людцы, праклятыя,
Прокляты за сэрцайка каменнае,
Шчасьця вам ня знаці супакойнага,
Птушак як пабачыце, успомніце:
Будзе вам хацецца іх губіці, біць,
Будзе вам хацецца, як яны лятаць...

А і хто яшчэ на гэтым возеры
Лебядзя заб'е ці так, ці з умыслу,

Лебядзя заб'е ці лятучай стралой,
Ці так скруціць шыю яму белую, —
Хто заб'е, той сам памрэ у возеры, —
Ня губі, злы, жыцьця лебядзінага!"

Так сказаўшы, плаваў цар сярэдзінай,
Плаваў, абтрасаў ён пёркі белыя,
Ўзмахіваў крыламі лебядзінымі,
Ой, хаваўся ў чыстым, сінім возеры...
Выйдзе ён, як людзюхны зьвядуцца ўсе,
Выйдзе ён з-пад возера глыбокага,
Узмахне крыламі бела-беламі,
Прызаве жанок сваіх лябёдачак
Са дзяцьмі малымі, лебядзёнкамі.
Будуць над людзямі яны суд судзіць,
Суд судзіць над імі і адказ прасіць"...

1923 — 1924 г.

# ЗЬМЕСТ.

## III. Жыцьцёвае.



## IV. Настроі й лятуценьні.

СТАР.



## V. Зачарованы кут.



---

## УВАГІ ДРУКУ.

Лічым абавязкам зазначыць, што ў зборніку знаходзяцца некаторыя непаслядоўнасьці ў правапісе паасобных словаў. Гэта выклікана тым, што правапіс гэтых словаў ня лічыцца яшчэ зусім усталеным і пясьнярка іх ужывала так, як яны ўжываліся раней. Пасьля тога, як была адзержана згода зрабіць папраўкі, словы пісаліся згодна навейшаму іх ужываньню ў друку.

Такім чынам з пачатку зборніка ўжыта: у летку (улетку), бяз конца (бясконца), у даль (удаль), расстані (растані), лье (льле), у глыб (углыб), адзнака (ад'знака), расьцьвілі (расцьвілі), гдзе (дзе), у дзень (удзень), у восень (увосень), аджыве (ад'жыве) і інш.

Таксама там-жа ўкралася некалькі словаў, якіх ў вапошні час у беларускай літэратурнай мове высьцярагаюцца.

Далей і тое і другое памагчымасьці было папраўлена.

І. Д—н.

## Тэхнічныя абмылкі ў друку:

| *Надрукована.* | *Трэба.* | *Стар.* | *Радок.* |
|---|---|---|---|
| жывога | жывога, | 13 | 4 зьверху |
| жаліцце | жаліцца | 18 | 7 „ |
| сьплятаюцца | сплятаюцца | 23 | 9 „ |
| напаёных | напаёных, | 24 | 10 зьнізу |
| сатканым | сатканым, | 26 | 4 „ |
| сэрцы | сэрцы, | 36 | 7 „ |
| барджэй | баржджэй | 37 | 10 зьверху |
| вечер | вецер | 37 | 12 зьнізу |
| насьлядаваньне | насьледаваньне | 53 | 2 зьверху |
| сінелі | сінелі, | 53 | 3 зьнізу |
| хлопчукоў | хлапчукоў | 97 | 9 „ |
| з галубкай | з галубкай, | 100 | 4 зьверху |
| заплятаюць | заплялі і | 109 | 7 зьнізу |
| горам | чарам | 111 | 11 зьверху |
| І вочы | Ў вочы | 119 | 3 „ |

*Литературно-художественное издание*

**Арсеньева Наталья Алексеевна**

**ПОД СИНИМ НЕБОМ**

**Стихи**

*Факсимильное издание*

**Минск, издательство "Мастацкая літаратура"**
**На белорусском языке**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Арсеннева Наталля Аляксееўна**

**ПАД СІНІМ НЕБАМ**

**Вершы**

*Факсімільнае выданне*

***Выданне падрыхтавана па экземпляры, які захоўваецца ў Барыса Сачанкі***

Адказны за выпуск І. Клімянкоў.

ІБ № 4030

Падпісана да друку 20.XI.92. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 2. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7,56. Ул. выд. арк. 5,29. Тыраж 5000 экз. Зак. 5648.

Выдавецтва «Бацькаўшчына». 220600, Мінск, Даўгінаўскі тракт, 52-9.

**Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.**

**А 4702120100-024 / М 302 (03)-92 БЗ 234-91**

**ISBN 5-340-01267-0**

